

Жыве Беларусь!

# БЕЛАРУС

Address:
166-34 Gothic Drive
Jamaica, NY 11432

BIELARUS/Belarusan newspaper in Free World ISSN 1054-9455
Published by the Belarusan American Association, Inc.
bielarus@bazahq.org

№607 Сакавік-Красавік 2014 г.
Год выданьня 65

**Шаноўныя чытачы!**

Падаем да вашай увагі чарговы нумар газэты, гэтым разам падвойны за сакавік-красавік бягучага году. Гэтыя два месяцы нашага жыцьця былі напоўненыя featuring рознымі падзеямі, сярод іх даволі значнымі. Беларусы на Бацькаўшчыне і па цэлым сьвеце адзначылі 96-ю гадавіну абвяшчэньня незалежнасьці БНР. А празь месяц нас чакала Велікоднае сьвята, якое так любім мы з вамі сустракаць у нашых беларускіх цэрквах на чужыне, на жаль маліцца на Усяночную ў беларускай царкве не было магчымасьці нашым суродзічам у Беларусі, дзе пануе цалкам расейская праваслаўная царква, праўда , гэта маглі сабе дазволіць беларускія каталікі. Сьледам за Вялікаднем адзначалі сумную чарговую гадавіну Чарнобыля, шмат дзе гэта рабілася ў нядзелю 27 красавіка, на якую сёньня прыпадала Раданіца. Пра ўсе гэтыя падзеі мы пішам на старонках гэтага нумару.

Важнай тэмаю выпуску ёсьць таксама сытуацыя вакол Украіны, якая стала ахвяраю расейскай агрэсіі. Пагроза з боку Расеі навісла над цэлай Усходняй Эўропай і найперш над Беларусьсю. Дзеля больш глыбокага разуменьня сытуацыі падаем аналітычны артыкул Зянона Пазьняка пра вытокі і прыроду агрэсыўнай палітыкі пуцінскага рэжыму.

У газэце вы знойдзеце інфармацыю пра жыцьцё беларускай грамады ў Чыкага, пра юбілей Таварыства беларускай культуры ў Літве. Віншуем мы нашых юбіляраў, узгадваем сьветлую памяць адышоўшых, падаем абвесткі і каляндар памятных датаў на травень месяц.

Спадзяемся, што надрукаваная ў гэтым выпуску газэты інфармацыя будзе для вас цікавай і карыснай. Чакаем ад вас матэрыялаў для друку.

Да сустрэчы ў наступным нумары "Беларуса".

*Рэдакцыя*

## ДЗЕНЬ ВОЛІ 2014




## Ліст старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонкі Сурвіллы да беларускага народу

Дарагія суродзічы, браты і сёстры беларусы!

Зьвяртаюся да вас зь лістом у чарговы раз. Як і папярэднія разы, раблю гэта, бо цяпер пагражае Беларусі вялікая гора, і я ня пэўная, што вы, будучы засыпаныя хлусьлівай прапагандай, усьведамляеце ўсю глыбіню гэтай небясьпекі.

Чалавек, якога вы абралі дваццаць гадоў таму на найвышэйшую пасаду і які абяцаў народу залатыя горы, даўно ўжо забыўся на народ. Золата ідзе яму, ягонай сям'і і памагатым, а ашуканаму народу застаецца толькі гора. Ён гатовы прадаць усё лепшае ў Беларусі, зрабіўшыся закладнікам крамлёўскага агрэсара, які пачаў адбудоўваць сваю страчаную імпэрыю, новую імпэрыю зла.

Сёньня, у 2014 годзе, хачу прыцягнуць вашую ўвагу на адкрыта агрэсіўную дзейнасьць будаўніка гэтай імпэрыі, былога палкоўніка КГБ Пуціна, ня толькі за ўсходняй мяжой, але і ўнутры Беларусі, дзе ствараюцца і ўмацоўваюцца расейскія вайсковыя базы, нібыта дзеля абароны ад ворагаў. А беларускі народ, які гэтак пацярпеў ад войнаў, згодны амаль на ўсё, «абы не было вайны». А ваяўнічая адбудова імпэрыі верагодна прывядзе да ваенных акцыяў, у якіх ізноў будуць гінуць маладыя беларусы і будзе зьнішчацца краіна.

Падзеі, якія адбыліся ва Ўкраіне апошнім часам, паказваюць, што Расея не зьмянілася. Гэта ня той «старэйшы брат», зь якім беларусы нібыта зжыліся цягам дзесяцігодзьдзяў, а захопнік, супраць якога нашыя продкі змагаліся на працягу ўсяго XIX стагодзьдзя, і які адабраў у нас пачуцьцё годнасьці, родную мову, культурныя і маральныя каштоўнасьці, і нават нацыянальную сьвядомасьць. Гэта той самы «маскаль», супраць якога перасьцярагаў нас Кастусь Каліноўскі.

Калі спраўдзяцца змрочныя прадказаньні палітычных аналітыкаў, Расея пачне з сумнавядомай «абароны рускамоўных». Пасьля чаго з дапамогай свайго закладніка Лукашэнкі правядзе чарговы сфальшаваны «рэфэрэндум», паводле якога 125% насельніцтва Беларусі выказацца за ўваход у склад Расейскай Фэдэрацыі. І на гэтым усё скончыцца. Незалежнасьць, за якую найлепшыя сыны і дочкі Беларусі змагаліся два стагодзьдзі – зноў будзе страчаная. І гэтым разам, магчыма, назаўсёды, бо Масква ўмее прамываць мазгі, а мы – толькі між сабой ваюем. Як і іншыя паняволеныя народы.

Каб бараніцца ад чарговай акупацыі, нам патрэбная нацыянальная салідарнасьць і вера, што здолеем перамагчы.

Дарагія суродзічы! Калі вы адчуваеце сябе беларусамі, а ня толькі «тутэйшымі», калі калі вы жадаеце жыць у краі шчасьлівым і заможным, давайце забудземся пра ўсё, што нас падзяляе, дзе б мы ні жылі – на Бацькаўшчыне ці за мяжой. Будзьма гатовыя даць адпор захопнікам, якія жадаюць ізноў зрабіць Беларусь калёніяй сваёй імпэрыі – дзеля сваіх уласных «нацыянальных інтарэсаў», ніяк ня нашых. Адзіны супольны нацыянальны інтарэс беларускага народу – гэта замацаваць сваю незалежнасьць.

Усяго іншага мы з часам дасягнем, бо мы народ разумны, здольны, працавіты. Тады будзе час вырашыць, якой мы хочам бачыць нашу вольную, незалежную краіну, і брацца за працу, каб зьдзейсьніць нашыя мэты.

Адзінае, чаго мы ня можам сабе дазволіць, калі любім свой край і жадаем перадаць яго сваім дзецям і ўнукам вольным ды заможным, - гэта быць абыякавымі і чакаць, злажыўшы рукі, новае агрэсіі з боку суседа, у якога адзіная перавага перад намі – сіла зброі.

Дык абвесьцім сьвету, што мы – гаспадары на сваёй зямлі, і што інакш быць ня можа. Дамагаймася свайго права жыць спакойна ў сябе дома, безь ніякіх пагрозаў ад суседа. Дамагаймася усе разам, каб Масква вывела зь нейтральнай Беларусі свае базы і войскі. Беларусь таксама павінна выйсьці з так званай сыстэмы калектыўнай бясьпекі СНД, якая цалкам кантралюецца расейскім Генштабам. Не дазволім, каб нашую моладзь уцягнулі ў чужую вайну. Сьвет нас пачуе і дапаможа, бо пабачыў на свае вочы сапраўдны твар пуцінскай Расеі.

# Беларусы Канады адсьвяткавалі Дзень Волі



Сьвяткаваньне адбылося ў нядзелю 30 сакавіка 2014 года ў залі Беларускага грамадзкарэлігійнага цэнтра ў Таронта. Прысутныя былі прыемна ўражаныя новым фарматам імпрэзы: замест традыцыйнага даклада ўдзельнікам сьвяткаваньня была прапанаваная віктарына па гісторыі ўтварэньня БНР. Віктарыну падрыхтавалі і цудоўна правялі Алена Лявончанка і Ірына Тоўсьцік.

Сьвяткаваньне праходзіла пад лёзунгам салідарнасьці з народам Украіны. Сьпеўны гурт "Яваровы людзі" падахвоціў усіх выканаць разам украінскую песню "Заспіваймо пісні, товариші мої". Прысутныя змаглі пабачыць кадры з мітынгу, арганізаванага ўкраінскай дыяспарай Таронта, на якім выступалі і сябры ЗБК.

*Прэсавая служба ЗБК*

# У Саўт-Рывэры ўзьнялі бел-чырвона-белы сьцяг



У гарадку Саўт-Рывер у штаце Нью-Джэрсі (ЗША), дзе ад канца XIX ст. жыве вялікая грамада беларусаў, адзначылі Дзень абвяшчэньня незалежнасьці БНР.

Беларускі сьцяг быў урачыста ўзняты у прысутнасьці прадстаўнікоў гарадзкой улады і беларуска-амэрыканскай грамады, у суботу, 29 сакавіка, на галоўнай вуліцы горада каля будынку бібліятэкі-музэя (традыцыя ўздымальня беларускага сьцяга існуе тут ад 1960-х гадоў). Там жа была прачытаная праклямацыя мэрам горада Дня Беларускай Незалежнасці. У нядзелю 30 сакавіка ў царкве святой Еўфрасіньні Полацкай была прачытаная з нагоды ўгодкаў абвяшчэння незалежнасці БНР малітва за дабрабыт беларускага народу.

*Я.З.*

# Дзень Волі ў Менску







25 сакавіка ў Менску прайшлі традыцыйныя шэсьце і мітынг. Сёлета акцыя адбывалася пад знакам салідарнасьці з Украінаю і асуджэньня крамлёўскай агрэсіі. У акцыі прынялі ўдзел блізу 3 тысяч чалавек.

Арганізатары падавалі заяўку на правядзеньне шэсьця ад Акадэміі навук па праспэкце да плошчы Незалежнасьці, а таксама на мітынг на плошчы Незалежнасьці. Але менскія ўлады дазволілі толькі шэсьце па праспекце Незалежнасьці і вуліцы Сурганава да парку Дружбы народаў, дзе адбыўся мітынг.

Як і ў папярэднія гады сьвята не абышлося без затрыманьняў, арыштаў і папярэджаньняў. Ужо на наступны дзень ў Менску судзілі актывістаў, і ўдзельнікі акцыі атрымалі па пятнаццаць і пяць дзён турмы. Як выявілася, міліцыянты мелі загад браць усіх, хто публічна наважыўся выказаць супраціў расейскай інтэрвенцыі ў Крыме.

# Дзень Волі ў Нью-Ёрку

Беларуская грамада адзначала 96-я ўгодкі абвяшчэньня незалежнасьці БНР 23 сакавіка ў грамадзкім цэнтры на Атлянтык Авэню, 401. Раніцаю пад час Багаслужбы ў царкве быў адслужаны малебен за беларускі народ. Далей ўрачыстасьці працягнуліся ў грамадзкай залі, якая была ўпрыгожаная ў бел-чырвона-белых колерах.



*Янка Запруднік і Анатоль Занковіч з жонкаю пад час сьвяткаваньня*

Асноўны рэфэрат да сьвяточнай даты зрабіў вядомы беларускі дзеяч, прадстаўнік старэйшага пакаленьня эміграцыі д-р Янка Запруднік. Далей мы падаем поўны тэкст гэтага выступу, які выклікаў вялікую зацікаўленасьць прысутных сваімі глыбокімі аналітычнымі высновамі і думкамі. Пра сучасную сытуацыю ў Беларусі і ідэалы БНР гаварыў прадстаўнік малодшага пакаленьня, выпускнік ЭГУ Андрэй Асадчы.

Былі агалошаныя сьвяточныя віншаваньні ад Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы, ад беларусаў Канады, Аўстраліі, ад Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына", ад сп. Міхася Міцкевіча, ад сп. Валера Барташа з Севастапалю, ад сяброў БАЗА з Флярыды і інш. З прывітальным словам выступіў Зянон Пазьняк.

Ганаровы госьць, старэйшы беларус у Амэрыцы сп. Антон Шукелойц выступіў з надзвычай палымянай прамоваю. Ягонаму імпэту маглі пазайздросьціць і маладзейшыя.

Мастацкая частка, якая была падрыхтаваная сп. Алаю Орса-Рамана, стварыла прыемны настрой ў залі. Оперныя сьпевы ў выкананьні Аляксандры Турчанковай і лірычныя мелёдыі пад гітару Віктара Пайлака былі прыхільна ўспрынятыя прысутнымі. Гэтым разам не было ў праграме выступаў дзяцей, за іх мусілі трымаць адказ бацькі - Андрусь Падлескі і Сяржук Капытка цудоўна выканалі вядомую беларускую песьню "Як служыў я ў пана..."

На сёлетнім сьвяце ў грамадзкай залі было нават цесна, так шмат сышлося людзей, для каго гэты дзень стаў важным у жыцьці. Гэта была ўрачыстасьць, але з прысмакам горычы, што прыносіць сёньняшняя сытуацыя на нашай Бацькаўшчыне і ў суседняй Украіне. Яна нагадвае нам, што змаганьне за сапраўдную незалежнасьць і волю яшчэ далёка не завершанае.

*Ганна Сурмач*

*Уладзімір Караткевіч, Надзя Запруднік і Ала Кузьміцкая за сьвяточным сталом*



*Прамаўляе Антон Шукелойц*



# ПРА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ, пытаньне беларускай “волі-няволі” ў мінуўшчыне ды паняцьце “незалежнік”

### *Рэфэрат на сьвяткаваньні ў Нью-Ёрку 23 сакавіка 2014 г. 96-х угодкаў абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці БНР)*

Беларуская Народная Рэспубліка мае свой юрыдычны пачатак у трох устаўных граматах, апублікаваных Выканаўчым Камітэтам Рады Першага Ўсебеларускага Зьезду. Зьезд гэты, у якім ўзяло ўдзел 1915 дэлегатаў, быў склікан у сьнежні 1917 году. Пасьля колькіх дзён працы зьезду расейскія бальшавікі разагналі яго сілаю зброі. Ад імя гэтага форуму далей гаварыў выканаўчы ці, як тады казалася, спаўняючы камітэт. Камітэт выдаў у лютым і сакавіку 1918 году тры ўстаўныя граматы, у якіх сьцісла выкладзены ідэі й прынцыпы Беларускай Народнай Рэспублікі.

Першая Ўстаўная Грамата была зваротам-заклікам “Да народаў Беларусі”. У ім казалася: “Мы павінны ўзяць свой лёс ва ўласныя рукі. Беларускі народ павінен зьдзейсьніць свае права на поўнае самавызначэньне.” Выканаўчы Камітэт абвесьціў таксама, што “да скліканьня на дэмакратычных асновах Устаноўчага Сойму” “часовую ўладу ў краю будзе зьдзейсьніваць створаны намі Народны Сакратарыят Беларусі”. Наступным эпахальным дакумэнтам сталася праз два з палавінаю тыдні, 9-га сакавіка 1918 году, Другая Ўстаўная Грамата, якую можна назваць зародкам канстытуцыі Беларускай Народнай Рэспублікі. У ёй сказана, што гэта “пастанова аб дзяржаўным устроі Беларусі і аб правох і вольнасьцях яе грамадзян і народаў”. У грамаце восем ляканічных параграфаў, у першым з іх чытаем: “Беларусь у рубяжох расьсяленьня і лічэбнай перавагі беларускага народу абвяшчаецца Народнай Рэспублікай”. Пяты параграф абвяшчаў дэмакратычны лад Рэспублікі: “свабоду слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў; безумоўную свабоду сумленьня, незачэпнасьць асобы й памяшканьня”.

І ўрэшце раніцай 25 сакавіка 1918 году, пасьля ўсяночных напружаных дэбатаў, была прынятая Трэцяя Ўстаўная Грамата – акт аб дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі зь ягоным трыюмфальным сказам: “Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца Незалежнай і Вольнай Дзяржавай”.

Гэтак вось 96 гадоў таму ўжыцьцёвілася, афармілася палітычна й юрыдычна, зароджаная яшчэ ў другой палавіне 19-га стагодзьдзя ідэя дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі.

Тры Ўстаўныя Граматы Выканаўчага Камітэту Першага Ўсебеларускага Зьезду – гэта асноўныя дакумэнты беларускай палітычнай гісторыі й незалежніцкага руху.

У сувязі з угодкамі Акту Незалежнасьці хачу закрануць тут пытаньне пра гістарычны час “волі” й “няволі” Беларусі: калі ў сваёй мінуўшчыне Беларусь была “вольнай” і калі перастала быць такой?

Першая грамата гэтага пытаньня не кранала. А ў другой сказана: “Пасьля трох з паловаю вякоў няволі зноў на ўвесь сьвет кажа беларускі народ аб тым, што ён жыве і будзе жыць”. “Пасьля трох з паловаю вякоў няволі...” Дык калі тая “няволя” пачалася?

Адняўшы ад 1918 “тры з паловай вякі”, мы вяртаемся ў 1568 год. Гэта – пярэдадзень Люблінскае вуніі Вялікага Княства Літоўскага з каронай Польшчай.

Люблінская вунія 1569 году – вялікая тэма ў нашай гісторыі зь вельмі сумным вынікам для Беларусі. Вунія гэтая, як агульна ведама, прывяла амаль да татальнай палянізацыі верхняга пласта беларускага грамадзтва й да страты беларускай мовай у 1696 годзе статусу афіцыйнай мовы ВКЛ. Вось чаму, азіраючыся ў 1918 годзе назад у мінуўшчыну, аўтары Другой Устаўной Граматы, бачачы, што панятак “беларускі народ” зьведзены ў асноўным да панятку абяздоленай сялянскай масы, далі мінулым стагодзьдзям такую адмоўную ацэнку - “няволя”.

Зусім інакш, аднак, выглядае наша мінуўшчына праз прызму Трэцяй Устаўной Граматы. Тут ужо чытаем, што “ярмо дзяржаўнай залежнасьці... гвалтам накінулі расійскія цары на наш вольны і незалежны край”.

Гістарыяграфічнае разыходжаньне паміж другой і трэцяй устаўнымі граматамі адносна “няволі” й “волі” роднага краю вымагае тлумачэньня, бо дасюль, наколькі мне ведама, ніхто ім не займаўся. А гэта, бадай, таму, што недастаткова матэрыялаў для такога разгляду: няма патрэбных пратаколаў паседжаньяў, прэсавых паведамленьняў, лістоў, мэмуарных запісак. Нам ня ведама, якія канкрэтна былі спрэчкі-дыскусіі, як адбывалася галасаваньне, як уплывалі на працу выканаўчага камітэту вонкавыя ваенна-рэвалюцыйныя абставіны. Але разам з тым мы ведаем, што сярод лідараў незалежніцкага руху ды палітычных дзеячоў таго часу былі людзі высока адукаваныя й палітычна дасьведчаныя. Натуральна, яны маглі адрозьнівацца адзін ад аднаго палітычнымі перакананьнямі ды паглядамі на мінуўшчыну краю.

Думаю, што аўтары Трэцяй Устаўной Граматы сказалі пра Рэч Паспалітую, у складзе якой была Беларусь, як пра “наш вольны і незалежны край” з гледзішча на Канстытуцыю 1791 году. Канстытуцыя гэтая была сфармуляваная ў духу францускай рэвалюцыі й дэмакратычных ідэяў незалежных Злучаных Штатаў Амэрыкі. Хоць яна й абвяшчала дзяржаву ўнітарнай, касуючы асобны статус Вялікага Княства Літоўскага, яна адначасна пашырала грамадзянскія й муніцыпальнымі правы, давала значна больш свабоды, чымся яе мелі ў Расейскай імпэрыі падданыя самаўладнае царыцы Кацярыны 2-й. Менавіта каб спыніць пашырэньне на ўсход волялюбных ідэяў, расейская імпэрытарыца й захапіла рэшту беларускіх тэрыторыяў у двух апошніх падзелах Рэчы Паспалітай у 1793-м і 1795-м гадох, неўзабаве пасьля прыняцьця Канстытуцыі 3-га травеня 1791 году.

Як бы ні ацэньвалі тварцы ўстаўных граматаў мінуўшчыну свайго краю, ягоную будучыню яны бачылі аднолькава: незалежнасьць і дэмакратыя: нацыянальна-пэрсанальная аўтаномія, роўнае права ўсіх моваў народаў Беларусі; зямля бяз выкупу тым, што самі на ёй працуюць. Гісторыя паказала заснавальнікам Беларускай Народнай Рэспублікі, што адзіны шлях да справядлівага ўсенароднага дабрабыту - гэта дзяржаўная незалежнасьць! І, як трэба разумець, - ніякіх вуніяў ці саюзаў ні на захад, ні на ўсход, ні з Польшчаю, ні з Расеяй.

Ад часу трох устаўных граматаў Рады БНР і праз усе далейшыя гады ў беларускай гісторыі былі й ёсьць незалежнікі: тысячы іх, шчырых працаўнікоў, герояў-мучанікаў, ведамых і няведамых. Вось жа на заканчэньне сказанага прапаную задумацца над гэтым шматзначным словам “незалежнік”. Пашукайма ў гэтым слове зьместу ня гэтулькі “для народу”, колькі для сябе асабіста, для свайго ўласнага жыцьцёвага компасу.

У вызвольным змаганьні ёсьць два аспэкты: вонкава-калектыўны й нутрана-асабісты. Задумаймася над гэтым апошнім, нутрана-асабістым аспэктам. Слова “незалежнасьць” значыць ня быць у залежнасьці ад каго-небудзь ці ад чагонебудзь, інакш кажучы, быць самастойным у сваіх думках і ўчынках. Найлепш бараніць інтарэсы ўласнай краіны могуць толькі незалежнікі - - людзі вольныя, незалежныя ад чужое волі, ад чужое ідэялёгіі; вольныя ад няведы свае гісторыі й культуры, ад няздольнасьці валодаць мовай продкаў. Няведаньне нацыянальнае мовы асабліва згубнае, небясьпечнае, бо ў чужой мове закладзены чужыя эмоцыі, чужыя ацэначныя крытэрыі й чужыя інтарэсы.

Спрадвечная мова свайго народу – гэтая ня толькі словы, гэта й пачуцьці, гэта й сьветагляд, сьветаўспрыйманьне й сьветаразуменьне. Пра гэта сказана тысячы разоў найбольш выдатнымі мысьлярамі чалавецтва: гісторыкамі, філёзафамі, культуролягамі, філёлягамі, псыхолягамі, рэлігійнымі дастойнікамі.

Вось адно зь нядаўных красамоўных выказваньняў на гэтую тэму - глыбокамысныя словы нунцыя Ватыкану ў Беларусі, арцыбіскупа Кляўдыя Гуджэроцьці. У пасьмяротным разьвітаньні з волатам беларускага слова Рыгорам Барадулінам ён сказаў:

“Мова — гэта інструмэнт, якім карыстаецца Бог, каб размаўляць з народам.Таму яна сьвятая і вартая, каб яе шанавалі й любілі, як маці. На гэтым інструмэнце Рыгор Барадулін умеў выконваць дзівосныя мэлёдыі й дазволіў беларускаму народу сваёй мовай дакрануцца да вышынь прыгажосьці”.

Сёньня, калі расейскамоўнасьць выкарыстоўваецца Масквой як прычэпка для захопу суседзкае тэрыторыі, валоданьне нацыянальнай мовай – гэта фронт абароны Бацькаўшчыны, фронт абароны ейнай незалежнасьці.

Абагульняючы сказанае пра Незалежнасьць, хачу падкрэсьліць: Слова-лёзунг “незалежнасьць”, ягоную практычную вартасьць, ягоны ўплыў на хаду падзеяў лягчэй зразумець і ацаніць, калі яго разглядаць з гледзішча асабістага, пэрсанальнага, не абстрагуючы яго на рэшту грамадзтва, на цэлы народ, а перш-наперш прыкладаючы яго да самога сябе, да самое сябе.

Змаганьне за незалежнасьць і абарона незалежнасьці найбольш эфэктыўныя, выніковыя, калі яны ўгрунтаваныя на пэрсанальным разуменьні каштоўнасьці свабоды, на асабістай ведзе мінуўшыны роднага краю. Быць незалежнікам - значыць быць упэўненым, што асабістыя, уласныя перакананьні, асабістыя ўчынкі арганічна ўплываюць на нацыянальна-масавыя падзеі, на хаду гісторыі свайго народу.

Асабістая веда, асабістыя перакананьні ды абумоўленыя імі асабістыя ўчынкі - гэта той ручаёк, які зьліваецца ў шырокую плынь, сэнс і мэта якое -- ужыцьцяўляць ідэі папярэднікаў і свае ўласныя аб свабодзе, незалежнасьці й народным дабрабыце.

Жыве Беларусь!

*Янка Запруднік*

## «Беларусь, гуляй шчыра!»

Вашынгтонскі гурток Беларуска-амэрыканскага задзіночаньня (БАЗА) ініцыяваў кампанію «Беларусь, гуляй шчыра!». Яе мэта — прыцягнуць увагу амэрыканскай грамадзкасьці да сытуацыі ў Беларусі напярэдадні чэмпіянату сьвету па хакеі.

«Прымаючы ў сябе спартыўныя спаборніцтвы сусьветнага ўзроўню, якія кіруюцца прынцыпамі справядлівасьці і вынікаюць з адзіных правілаў, Беларусь павінна рушыць усьлед гэтаму прыкладу і паказаць сваім грамадзянам і міжнароднай супольнасьці, што яна можа гуляць па правілах. Маляўнічае відовішча і эканамічныя выгады вялікага міжнароднага спартовага мерапрыемства не павінны адцягваць увагу ад парушэньняў правоў чалавека, якія працягваюцца. Падтрымліваючы справядлівыя спаборніцтвы, Беларусь павінна таксама падтрымліваць фундамэнтальныя правы і свабоды сваіх грамадзянаў. Такія, як свабода слова, асацыяцыяў, свабодныя і справядлівыя выбары», — заявіла намесьніца старшыні Гуртка БАЗА ў Вашынгтоне Алеся Кіпель.

Актывісты кампаніі адправілі чальцам зборнай ЗША, а таксама амэрыканскім кангрэсмэнам лісты, у якіх распавялі пра сытуацыю ў Беларусі і папрасілі выкарыстоўваць любую магчымасьць выступіць у абарону правоў чалавека.

«Шэраг кангрэсмэнаў ужо пагадзіліся выступіць з заявамі, нам удалося выйсьці асабіста на чальцоў зборнай ЗША па хакеі. Мы таксама арганізуем пратэст ля беларускай амбасады ў Вашынгтоне, адпраўляем звароты фундатарам чэмпіянату. Упэўнены, што амэрыканцы ў гэтыя дні даведаюцца пра Беларусь больш, чым за апошнія тры гады», — мяркуе адзін з каардынатараў кампаніі старшыня Гуртка БАЗА ў Вашынгтоне Вячаслаў Бортнік.

## Брыфінг у Кангрэсе ЗША

25 сакавіка, у Дзень Волі, праваабарончая арганізацыя Freedom House, Нацыянальны Фонд Дэмакратыі (NED), Хельсынская камісія разам з Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем (БАЗА) і Злучаным Балтыйска-Амэрыканскім Нацыянальным Камітэтам правялі палітычны брыфінг на тэму «Беларусь: Актывізацыя пазытыўных зьменаў у геаграфічным цэнтры Эўропы».



*Намесьніца старшыні Гуртка БАЗА ў Вашынгтоне Алеся Кіпель з удзельнікамі брыфінгу*

Сёлета ў ліпені спаўняецца 20 гадоў ад часу абраньня Аляксандра Лукашэнкі прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь. Гэта быў першы і апошні раз, калі Лукашэнка быў абраны кіраўніком краіны легітымна. Удзельнікі брыфінгу абмеркавалі сытуацыю ў Беларусі праз 20 гадоў ад пачатку панаваньня Лукашэнкі — становішча з правамі чалавека (улучна з палітзьняволенымі і зьніклымі), праблемы эканомікі, высновы на будучыню.

З улікам актуаліяў апошніх месяцаў удзельнікі дыскусіі задаваліся пытаньнем — ці не стане Беларусь наступным Крымам. Абмяркоўвалася «мяккая» і «цьвёрдая ўлада» Расеі ў Беларусі. На брыфінгу закраналіся пытаньні палітыкі ЗША і ЭЗ у дачыненьні да Беларусі — аналізаваліся плюсы і мінусы розных падыходаў і шукалася найлепшая стратэгія для прасоўваньня наперад. Выступаючы на брыфінгу, прадстаўнік фонду National Endowment for Democracy Роджэр Патоцкі зазначыў: «Немагчыма быць на мяжы Эўразьвязу і заставацца рэпрэсіўнай дзяржавай бясконца. Калі Ўкраіна нам нешта паказала, дык гэта жаданьне людзей быць больш заходнімі, больш эўрапейскімі, быць больш свабоднымі, ня мусіць даваць хабар, не дапускаць беспакаранасьці супрацоўнікаў міліцыі і ўрадоўцаў... Калі мы пабачылі зьмены ва Украіне, мы з часам пабачым іх і ў Беларусі».



*Робэрт Герман*

Былы амбасадар ЗША ў Беларусі (1994-1997) Кенэт Ялавіц выказаў упэўненасьць, што «Пуціны і Лукашэнкі гэтага сьвету — гэта часовая зьява».

Зьмены ў беларускай сытуацыі ўдзельнікі брыфінгу зьвязваюць ня столькі зь пераменай рэжыму, колькі са зьменамі ў самім беларускім грамадзтве. Так, Роджэр Патоцкі зазначыў: «Мы сапраўды бачым у Беларусі пазытыўныя зьмены. Тут пытаньне ня толькі ў тым, каб адхіліць ад улады аднаго чалавека, каб нешта зьмяніць. Мы не падтрымваем ідэю аб зьмене рэжыму і ня верым, што калі адсячы галаву ўладзе, то ўсё адразу зьменіцца. Зьмены павінны адбывацца зьнізу, пачынацца ад зьмен у грамадзтве, і мы бачым гэтыя зьмены ў Беларусі».

Іншы ўдзельнік дыскусіі — віцэ-прэзыдэнт Freedom House па рэгіянальных праграмах Робэрт Герман — скептычна выказаўся пра неабгрунтаваныя спадзяваньні Захаду на слабасьць беларускага рэжыму.

Адной з тэмаў брыфінгу быў і чэмпіянат сьвету па хакеі, які мае адбыцца сёлета ў траўні ў Менску.

*Вячаслаў Бортнік*

## Ангельскія газэты пра Беларусь

У ангельскай газэце The Sunday Telegraph за 02.02.2014 быў апублікаваны доўгі артыкул з фотаздымкамі пра нашага земляка Марка Шагала і гісторыю аднаго ягонага абраза, фальсыфікацыя якога была прададзеная за арыгінал. У артыкуле згадваецца Беларусь і Віцебск, але Шагал называецца расейска-францускім майстрам.

У газэце The Daily Telegraph за 17.02.2014 у артыкуле пра дэманстрацыі ў Кіеве ёсьць вялікі каляровы фотаздымак, на якім між іншых лунае і бел-чырвона-белы сьцяг з Пагоняй.

Зноў у газэце The Daily Telegraph за 18.02.2014 было напісана пра недасканалы закон рэгуляваньня продажу жаночай бялізны, што дзейнічае з 2012 году ў рамках Эўразійскага саюзу, куды уваходзяць Расея, Беларусь і Казахстан. Там гаварылася пра тое, што гэты Саюз створаны Расеяю дзеля таго, каб загнаць колішніх савецкіх суседзяў у больш цесны палітычны саюз.

*Міхаіл Шведзюк, Англія*

## Уганараваны беларускія журналісты



*Андрэй Пачобут*



*Жанна Літвіна*

Міжнародная арганізацыя «Рэпарцёры бязь межаў» упершыню склала сьпіс «Сто герояў інфармацыі». У яго ўвайшлі журналісты з 65 краінаў. З Эўропы ў ганаровы сьпіс трапілі восем чалавек, у тым ліку беларусы Жанна Літвіна і Андрэй Пачобут.

Журналіст Андрэй Пачобут, які працуе карэспандэнтам польскага выданьня «Gazeta Wyborcza», быў пазбаўлены акрэдытацыі МЗС Беларусі, за журналісцкую і грамадзка-палітычную дзейнасьць караўся штрафамі, адміністрацыйнымі арыштамі, на яго двойчы заводзілі крымінальныя справы. У 2011 годзе яго асудзілі на 3 гады пазбаўленьня волі з адтэрміноўкай выкананьня прысуду на 2 гады за «паклёп на прэзыдэнта».

Жанна Літвіна - старшыня Беларускай асацыяцыі журналістаў, стваральніца некалькіх незалежных радыёстанцый так выказалася з нагоды прысуджэньня званьня «Герой інфармацыі»: "Калі ўвогуле глядзець на беларускую сытуацыю, на тыя ўмовы, у якіх сёньня працуюць беларускія журналісты, — на жаль, мы вымушаныя канстатаваць, што сваю стабільнасьць і сваю бясьпеку ўлада ўсё яшчэ забясьпечвае шляхам кантролю за інфармацыяй, а гэта значыць, і за грамадзкай сьвядомасьцю. Жорсткае дзяржаўнае рэгуляваньне, закрытасьць улады, нецярпімасьць і непрыманьне крытыкі — вось, відаць, адна з прычынаў праблем журналісцкай супольнасьці ў Беларусі».

# Велікоднае архіпастырскае пасланьне да вернікаў Першаярарха БАПЦ, архіяпіскапа Сьвятаслава Логіна



*Годнаму сьвятарству й вернікам Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, якія жывуць на Бацькаўшчыне й на Чужыне.*

*«... палюбеце ж адзін аднаго, як Я палюбіў вас.» (Ян. 15:12)*

Дарагія браты й сёстры ў Хрысьце!

Штогод, на працягу амаль дзьвюх тысячаў гадоў, хрысьціяне сьвяткуюць найбольшае сваё Сьвята — Уваскрасеньне Хрыстовае. Зноў мінуў літургійны год, і Царква, праходзячы гадавое кола Набажэнстваў, вяртаецца да сьвяткаваньня галоўнага Сьвята — Вялікадня. Але час ня йдзе па колу, а няспынна ляціць уперад.

Праваслаўная Царква на працягу сваіе гісторыі не зьмяняла свае погляды на Бога, на жыцьцё і сьмерць, сьвятасьць і грэх, дабро і зло. Але самое чалавецтва жыве ня толькі духоўным, а й фізычным жыцьцём, таму зьмяняюцца пакаленьні і сьветапогляды людзей, зьмяняюцца адносіны паміж людзьмі і цэлымі народамі, асабліва калі нехта зь іх пераступае хрысьціянскія законы.

Часам зьмены ў душах людзей адбываюцца вельмі хутка. Так Беларускі народ, які жыве пасярод іншых хрысьціянскіх народаў, надаваў болей павагі і спадзяваньня на усходняга суседа, які клікаў сябе «старшым братам», даруючы яму старыя гістарычныя крыўды, лічачы іх даўно мінулымі. Але апошнія падзеі, калі суседняя Украіна падвергнулася расейскай агрэсіі, застаўляюць ліцьвінаў-беларусаў задумацца і над сваім лёсам, бо й Беларусь можа апынуцца пад пагрозаю націску таго ж хлусьлівага агрэсара.

І як калісьці Хрыстос прынёс сябе ў ахвяру за людзей, так і кожны з нас павінен змагацца за свой народ, што й рабілі ўсе пакаленьні нашых продкаў, і калі патрэбна было, аддавалі жыцьцё за сваю Бацькаўшчыну. Бо як сказана ў Сьвятым Пісаньні: «Няма большае за тую любоў, як хто пакладзе душу сваю за блізкіх сваіх». Каб любоў заўсёды перамагала — неабходна жыць паводле Хрыстовых запаветаў, тады хрысьціяне шчыра будуць віншаваць адзін аднаго:

Хрыстос Уваскрос! — Сапраўды Уваскрос!

*Зь любасьцю й малітвамі,*
*+ Архіяпіскап Сьвятаслаў,*
*Першаярарх БАПЦ*

# Вялікдзень у Нью-Ёрку



Прыемна адзначыць, што ў сьвятую Велікодную ноч, калі паўсюдна ў гэтым годзе славілі Хрыстова Уваскрэсеньне хрысьціяне ўсіх накірункаў, сьвяціліся вокны і ў нашым Катэдральным Саборы БАПЦ Св. Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку на Атлянтык Авеню, 401. Гэта азначала, што Сабор не пуставаў, што на Багаслужбу прыйшлі і прыехалі нашыя людзі. Як заўсёды Сабор быў па-сьвяточнаму ўбраны, букеты белых лілеяў стаялі ў царкоўнай залі. А ўнізе, у грамадзкай залі на расстаўленых сталах ўсё прыбывала прыгожых кошыкаў з велікоднымі стравамі ды рознакаляровымі яйкамі, якія рыхтавалі для асьвячэньня.

Вытрымаць Усяночную службу для вернікаў у нашым Саборы, можа не так складана, бо маем мы ўтульныя лаўкі, дзе можна стомленым прысесьці, высокая столь і прасторная заля даюць магчымасьць вольна дыхаць, не абліваца потам ад задухі, як гэта, памятаю, было ў нашай царкве ў маёй роднай вёсцы на Гарадзеншчыне. І цяпер там яшчэ няма клопату пра людзей. Пераважна ходзяць на Усяночную старэйшыя людзі і мусяць стаяць на сваіх спрацаваных цяжкаю працаю на зямлі нагах цэлую доўгую ноч. Як мне сказала мая радня сёлета служба ў іхнай царкве доўжылася з 10 гадзінаў вечара да 4 гадзінаў раніцы. Лаўкі ёсьць хіба толькі некалькі пры сьцяне, якія хутка займаюцца самымі нямоглымі, так што і прысесьці няма дзе. Заўсёды страшна дзівілася, як гэта нашыя бабулькі могуць вытрымаць усю службу. І мая маці кожны Вялікдзень хадзіла. А цяпераш-няя моладзь ужо гэтага не вытрымлівае.

Хаця напачатку пасьля дванаццаці гадзін ужо вочы самі сабою заплюшчваліся, усё ж сьвяточны, урачысты настрой браў верх і ў душы радасна гучала : "Хрыстос Уваскрос! Сапраўды Уваскрос!" Было прыемна адчуваць сябе ў сваёй беларускай грамадзе, сярод сваіх у гэтую сьвяточную ноч,ісьці разам Хросным ходам, а потым стаяць каля сьвяточнага стала і цікаваць, каб і твой кошычак быў асьвечаны сьвятою вадою. Пасьля урачыстасьцяў разам разгавеліся яйкамі і прыгатаванымі і асьвечанымі стравамі. Разышліся толькі пад раніцу, стомленыя, але задаволеныя, з цяплом і радасьцю ў сэрцах. Думалася: як добра, што маем сваю царкву. што мы не горшыя за іншых, што і нашыя вокны сьвяціліся ўначы і гучаў вокліч: "Хрыстос Уваскрос!". Як трэба нам берагчы гэты наш духоўны асяродак, які дапамагае заставацца нам і на чужыне годнымі людзьмі і вернікамі.

*Ганна Сурмач*

# Велікодная беларуская традыцыя ў Саўт-Рывэры



У горадзе Саўт-Рывэр у штаце Нью-Джэрсі ў суботу ўвечары каля праваслаўнай царквы св. Еўфрасіньні Полацкай сабраліся прыхаджане і непрыхаджане на традыцыйнае асьвячэньне велікоднае ежы.

Пры сонечным надвор'і ўрачыстасьць асьвячэньня адбылася на траўніку каля царквы. Уздоўж царкоўнага будынку людзі паставілі кошыкі, напоўненыя чырвонымі яйкамі, бабкамі, мяснымі вырабамі, слоікамі з хрэнам ды запаленымі сьвечкамі. Настаяцель айцец Міхаіл, у суправаджэньні царкоўнага хору, блаславіў ежу й вернікаў.

Вялікія рэлігійныя сьвяты служаць шмат каму добрай нагодай пабачыцца зь сябрамі й знаёмымі, якія жывуць воддаль, але трымаюцца сваіх традыцыяў і захоўваюць памяць пра край паходжаньня.

*Янка Запруднік,*
*фота Надзеі Запруднік*

# Раданіца на беларускіх могілках



У нядзелю 27 красавіка Парафія Царквы Жыровіцкае Іконы Божае Маці ў Гайленд-Парку (Нью-Джэрзі) арганізавала традыцыйнае асьвячэньне магілак на беларускім могільніку, дзе пахаваныя родныя і блізкія шмат каго зь беларусаў Нью-Джэрзы і Нью-Ёрка.

Акрапленьне магілаў і малітвы правёў а. Зіновій з прысутнасьцю наведвальнікаў, якія ў гэты халодны дзень сабраліся, каб ушанаваць памяць сваіх блізкіх.

# Мадыфікацыя фашызму

## Ліст да беларускіх адраджэнцаў

Падзеі, якія адбываюцца ва Ўкраіне і ў Беларусі, вымагаюць асэнсаваньня. У нас, беларусаў, павінен быць зразумелы адказ на пытаньні - што рабіць, як сябе паводзіць, як ацэньваць зьявы? Агентура і "псэўды" ўжо даўно пачалі лямант у падтрымку Лукашэнкі ў выпадку расейскага нападу (сымптаматычная ўсё ж такая рэакцыя). Але мы ведаем, ад каго ў першую чаргу трэба пазбавіцца і хто ёсьць галоўнай небясьпекай для сувэрэнітэту, незалежнасьці і свабоды.

Зараз адбываецца інфармацыйная вайна. Беларусь існуе ў інфармацыйным полі Расеі. Тут вялікая небясьпека ад уплыву яе ілжывай прапаганды. Нам трэба супрацьставіць гэтаму ўсе нашыя сродкі. Цяпер абсалютна зразумела, што ў вайне за Украіну пераможа той, хто выйграе інфармацыйную вайну.

Прапаную тут свае развагі па надзёнех пытаньнях.

### Гісторыя фашызоіднай мэнтальнасьці

Па вялікаму кошту гісторыя расейскай агрэсіі і разбою пачынаецца ад Бату-хана і ўтварэньня мангольскай Арды. Дакладней, пасьля таго, як Арда аслабла, падзялілася, і Масковія паступова пераняла ўладу ў вялікай дзяржаве. Псіхалёгія вандроўнікаў была сутнасьцю дзяржаўнай палітыкі: захопы, разбой, агрэсія, вынішчэньне, існаваньне за кошт нарабаванага. На зьмену ханам прыйшлі цары і пераўзышлі ўсіх па жорсткасьці і самадурству. Але я не пра гэтую гісторыю. Сутнасьць палітыкі Маскоўшчыны і псіхалёгія "масканя-кацапа" (у вобразным выяўленьні самых расейцаў) была добра вядомая ўсім нацыянальным палітыкам і людзям, якія сутыкаліся з расейцамі ў іхным асяродзьдзі. Расейская палітыка і расейская ўлада ва ўсе часы абсалютна адпавядала расейскай мэнтальнасьці. Дачыненьні паміж маскоўскай уладай і дэмасам, пабудаваныя на прынцыпе рабства, дзе ўлада кіруе, душыць і зьневажае, а грамадзтва падтрымлівае ўладу за права душыць і зьневажаць іншых, што зьяўляецца для нявольніцкай псыхалёгіі сурагатам свабоды (нявольніцкай свабоды). Валоданьне нявольніцкай свабодай спараджае татальную псыхалёгію нянавісьці і ідэалёгію агрэсіі. За ўсё жыцьцё, часта сутыкаючыся з расейцамі, я ні разу(!) ня чуў ад расейцаў, каб яны з павагай і пашанай адзываліся б пра любы іншы народ, акрамя рускага. Ацэнкі толькі нэгатыўныя, грэблівыя, насьмешлівыя, хамскія, злосныя, гістэрычныя, ненавісныя, паблажлівыя, ёрніцкія, зайздросныя і г.д., але ніколі не станоўчыя, не пахвальныя, не паважлівыя. Тое ж самае – ў рускай літаратуры, аднабока імпэрскай, не гуманнай, бяз сьветлых вобразаў і ідэй.

Гэта глыбока ксэнафабічная псыхалёгія, якая вылучае толькі сябе ў чужым для яе сьвеце. Астатнія – гэта прадмет неўспрыняцьця альбо нянавісьці – "чуркі", "хахлы", "бульбашы", "лабусы", "жыдава", "пшэкі" і г. д. Агрэсія, хамства і гістэрыка – асноўны тып паводзінаў рускага індывідыума ў неадпаведным грамадзтве. Пры пэўных абставінах гістэрыка набывае масавыя формы і ўяўляе сабой нешта па-азіяцку ўнікальнае, параўнальнае хіба з паводзінамі цяперашняга паўночна-карэйскага грамадзтва.

Сымптаматычна, што масавы імпэрскі псіхоз расейцаў узьнікаў не ў часы войнаў, але ў часы душэньня паўстаньняў за волю і незалежнасьць. Спрацоўвала псіхалёгія раба – нянавісьць да нярабскай свабоды. Усе задушэньні паўстаньняў у XIX стагодзьдзі на тэрыторыі Беларусі і Польшчы выклікалі паталягічны імпэрскі псіхоз рускага грамадзтва, уключаючы нізы і вярхі, рэлігію і імпэрскую літаратуру.

Асабліва вызначыліся 1830-31 і 1863-64 гады. Пасьля задушэньня паўстаньня Кастуся Каліноўскага ў Расеі тварылася нешта неверагоднае. Псіхоз ад імпэрскіх пачуцьцяў быў такі, што здавалася, быццам уся Расея звар'яцела. Адзіны напалову рускі, які падтрымаў вызвольнае паўстаньне, быў Герцан. Тады ён назваў тую імпэрскую псіхапатыю "русским патриотическим сифилисом".

Нічога ні пад сонцам, ні пад месяцам, ні пад "красной звездой" не мяняецца ў маскоўскай Ардзе. У 1922 годзе Карней Чукоўскі ў брашуры "Паэт і палач" выразна апісаў той стан ашалелай Расеі пасьля задушэньня паўстаньня Каліноўскага. Пачытаеш – і бачыш, што такое самае і цяперашняе клінічнае вар'яцтва маскоўцаў супраць Украіны з нагоды акупацыі і анэксіі Крыма.

Такое пасіянарнае задавальненьне рускіх ад усьведамленьня разбуральнай і прыгнятальнай ролі Расеі тлумачыцца ня толькі рэліктавымі эмоцыямі сярэднявечча, але вынікае яшчэ і з таго, што Расея не адбылася як нацыя. Па вялікаму кошту гэта не нацыя, а імпэрыя – асаблівая агрэсіўная супольнасьць людзей (якую адзначаў, дарэчы, часта цытаваны ў савецкай Расеі Карл Маркс). Імпэрыя валодае не нацыянальнай, а імпэрскай сьведамасьцю. Яе разьвіцьцё мае экстэнсіўны характар, накіраванае ўшырыню, характарызуецца не адмежаваньнем ад культурна чужога (як у нацыі), а паглынаньнем яго. Імпэрыя ня мае суцэльных этнічных межаў і зьяўляецца шматковай краінай. У гэтым яе слабасьць і зона распаду, які імпэрыя стараецца прадухіліць жорсткай унутранай палітыкай, што ўплывае на псіхалёгію і характар насельнікаў. Імпэрыя – характэрны тып дзяржаўнай арганізацыі сярэднявечча. Нацыі, што ўтвараліся пры распадзе імпэрыяў, - гэта новы, больш дасканалы від натуральнай арганізацыі грамадзтва. Нацыі выявіліся як больш жыцьцяздольныя і жыцьцядайныя агульнасьці людзей, якія адрадзілі і ўдасканалілі тып дэмакратычнага грамадзтва і свабоду асобы.

Бяда расейцаў, што яны затрымаліся на ўзроўні імпэрыі, прытым азіяцкага кшталту, дзе адсутнічалі такія каштоўнасьці ў герархічнай (імпэрскай) абароне асобы, якія былі, скажам, у імпэрскіх брытанцаў, рымлян і нават у туркаў-асманаў. Найвялікшы недахоп расейскага імпэрскага грамадзтва гэта неабмежаванае бяспраўе чалавека. Яно было заўсёды і як вынік спараджала халуйства да крымінальшчыны. Пуцінскі гэбіцкі рэжым ўзмацніў гэтыя недахопы, давёўшы часам іх да абсурду.

### Імпэрскі фашызм

Тое, што мы бачым цяпер у пуцінскай Расеі, - гэта тыповае выяўленьне шавіністычна-імпэрскага фашызму. Пасьля паўраспаду савецкай імпэрыі (1991 г.) адбылося перараджэньне сацыял-імпэрскага фашызму (якім быў савецкі сацыялізм-камунізм) у нацыянал-імпэрскі фашызм. Ад самага пачатку гэтых накірункаў сацыялізму розьніца паміж імі палягала толькі ў апорных групах грамадзтва. Нацыянал-сацыялізм (скарочана "нацызм") абапіраўся на выключнае права пануючай нацыі. Сацыял-камунізм – на выключнае права пластоў грамадзтва, пазбаўленых прыватнай уласнасьці. У астатнім – поўнае супадзеньне мэтадаў і задач, толькі з мадыфікацыямі па родавых прыкметах.

На пачатку ўзьнікненьня і разьвіцьця двух фашызоідных сыстэмаў сацыялізма паміж імі было брацкае супрацоўніцтва. Але паколькі і адна, і другая сыстэма імкнуліся да сусьветнага панаваньня, то сутыкненьне паміж імі было непазьбежным.

У Другой Сусьветнай вайне сьвет зьнішчыў адну частку антычалавечай сістэмы – гітлераўскі фашызм і нямецкі мілітарызм. З другой часткай (сацыялізм і савецкі імпэрыялізм) пачалася халодная вайна. Пасьля перамогі вольнага сьвету ў халоднай вайне сыстэма сацыялізму (сацыял-фашызму) распалася. Аднак засталася дзяржаўная імпэрская аснова і рэпрэсіўны апарат сістэмы: НКВД-КГБ. Такое становішча рана ці позна мусіла б прывесьці да дыктатуры, да аднаўленьня палітыкі імпэрыялізму і агрэсіі.

Пра небясьпеку такой зьявы я пісаў на працягу ўсіх 90-х гадоў (галоўная праца – "О русском империализме и его опасности"). Гром грымнуў у 2000-м годзе. Абсалютную ўладу ў Расеі пераняў КГБ. У той жа год зімой я паехаў у Вашынгтон, а сябры нашай партыі (КХП-БНФ) – у Парыж, Вільню, Рыгу, Брусэль. Ставілася задача папярэдзіць сьвет аб небясьпецы, склікаць міжнародную канфэрэнцыю палітыкаў на ўзроўні партыяў, дэпутатаў парлямэнтаў і членаў урадаў, зьвярнуць увагу на небясьпеку для ўсяго сьвету і прыняць плян супольных дзеяньняў. Небясьпека – гэта падрыхтоўка агрэсіі, перамена межаў, перапарадкаваньне грашовых плыняў, падпарадкаваньне дзяржаўнай мафіі і спэцслужбам усіх сфэраў дзейнасьці (найперш эканомікі і фінансаў), рост і каардынацыя сусьветнага тэрарызму, пранікненьне ў заходнюю палітычную сыстэму, лякальныя войны і ў выніку – перадзел сьвету і небясьпека новай усеагульнай вайны.

У Вашынгтоне знайшліся палітыкі, якія разумелі, у якім кірунку пойдзе разьвіцьцё Расеі. Дамовіліся аб падрыхтоўцы міжнароднай канфэрэнцыі. Я выехаў у Эўропу і Прыбалтыку. Усюды была падтрымка. Але потым збой адбыўся якраз у ЗША. Вашынгтон ухіліўся ад гэтай ініцыятывы. Вышэйшыя палітычныя сфэры заходу стаялі на іншых пазыцыях. Неўзабаве ў Маскву да ручкі Пуціна паехаў прэм'ер Вялікабрытаніі Тоні Блэр і іншыя лідэры. Пазьней прэзыдэнт ЗША Буш убачыць у рыбных вачах Пуціна "душу рускага народа". Захад сваёй палітыкай фактычна выгадаваў новы рускі фашызм і пакуль не разумее, што адбылося.

### Пляны агрэсіі

Новая палітыка пуцінскага гэбізму пачалася з першых жа дзён улады. Ужо ў 2002 годзе ён загаварыў пра анэксію Беларусі (пра далучэньне да Расеі шасьцю абласьцямі). Адначасна з унутраным захопам улады і пераразьмеркаваньнем маёмасьці ствараліся далейшыя пляны ўнутранай акупацыі Беларусі, захопу Украіны, Грузіі, Малдовы, Польшчы, Прыбалтыкі, Фінляндыі і наступнага падпарадкаваньня цэнтральнай Эўропы.

Паўраспад савецкай расейскай імпэрыі ў 1991 годзе прывёў да ліквідацыі КПСС і камуністычнай ідэалёгіі. Але імпэрыялістычная дзяржава дзеля ўтрыманьня рэжыму ўлады не магла заставацца без ідэалёгіі. Пуцінскі рэжым імкнецца надаць імпэрскай фашызоіднай ідэалёгіі праваслаўную афарбоўку. Тут, уласна, шмат высілкаў і не спатрэбілася. "Праваслаўная арганізацыя" (як выказаўся адзін гэбіцкі нувурыш пра РПЦ), створаная Сталіным ў 1943 годзе, ад самага пачатку фігуравала як падпарадкаваны аддзел КГБ. Пуцін надаў ёй надзвычайныя льготы і паўнамоцтвы у гандлі, у прадпрымальніцкай ды ідэалягічнай дзейнасьці, пры гэтым вызваліў ад падаткаў, стварыўшы, фактычна, царкоўны афшор і інш. У РПЦ былі перададзены ва ўласнасьць усе царкоўныя будынкі і храмы, якія ніколі не былі ўласнасьцю царквы (будынкі цэркваў у царскай Расіі і потым ў СССР належалі да ўласнасьці дзяржавы). Але самае галоўнае, што зрабіў Пуцін шляхам прыняцьця адпаведных законаў і на справе, – гэта, фактычна, надаў РПЦ функцыі дзяржаўнай установы і дзяржаўнай ідэалягічнай структуры.

На сёньняшні дзень РПЦ рэальна пераняла ў Расеі функцыю КПСС. Руськія бацюшкі ў партупеях (пад сутанай) патанулі ў раскошы і арганізавалі своеасаблівую дзейнасьць у грамадзтве – утварылі мноства маргінальных "праваслаўных" арганізацыяў ды суполак, замешаных на дзікім шавінізме і гістарычнай міталёгіі, пад агульным назовам "православный фашизм". "Православные фашисты" (яны гэтак сябе і называюць) у гістарычных убраньнях маршыруюць з крыжамі, іконамі ды харугвамі і ў фашысцкім вітаньні, выцягваючы наперад правую руку, крычаць замест "зіг гайль!" "Слава Хрысту!"

Фашызм мае родавыя прыкметы, па якіх пазнаецца. Гэта ідэалёгія групавой улады, заснаваная на агрэсіі, на праве сілы і непрызнаньні правоў іншых, акрамя права сваёй групы ўлады. Для апраўданьня агрэсіі фашызм выкарыстоўвае ідэалягічныя вэрсіі. Напрыклад, неабходнасьць жыцьцёвай прасторы (гітлерызм). "Нямеччына ўсюды і паўсюль." "Нямеччына над усім." ("Deutschland über alles"). Альбо – "русский мир". Гэта фактычна абазначае права на агрэсію, на далучэньне ўсіх тэрыторыяў, дзе гавораць па-руску. (Адсюль галоўны тэзыс расейскай палітыкі – русіфікацыя і разбурэньне нярускіх моваў.) Выкарыстоўваюцца вэрсіі генэтычнай, культурнай альбо расавай выключнасьці і паніжэньне іншых ("унтэрмэншаў", "чурак", "чучмэкаў" і г. д.). Гаворыцца пра "дух Нібэлюнгаў" і вышэйшасьць "арыяў" ці пра "богоизбранность Росии" і "мессианство русских для всего человечества" і г.д.

### Мэтамарфозы фашызму

Пераход да імпэрскага нацыянал-фашызму ў форме пуцінскага гэбізму адбыўся натуральна і заканамерна, з выкарыстаньнем гістарычных напрацовак, для інтэграцыі і асэнсаваньня якіх хапіла КГБ і Пуціна. КГБ для кантролю грамадзтва стварыў мноства радыкальных праімпэрскіх прарасейскіх арганізацыяў, фінансаваў іх, арганізаваў псэўда-апазыцыйныя структуры, разьвіваў ура-патрыятычныя настроі, дзе культывавалася расейская выключнасьць, мэтадычна ствараўся вобраз ворага ў абліччы Амэрыкі, НАТО, падступнага Захаду, гатовага нашкодзіць Расеі. Негалосна падтрымліваліся расісцкія настроі і дзеяньні. Пры гэтым рэжым Пуціна афіцыйна выступаў супраць фашызму і экстрэмізму, але фашыстамі і фашызмам у расейскім разуменьні называліся ўсе нярускія нацыянальныя рухі і людзі, што выступалі супраць расейскага імпэрыялізму, агрэсіі і несвабоды. Тут усё сьведама, па-гэбоўску было перавернута з ног на галаву. І збыліся словы Чэрчыля, калі рэальныя фашысты пачалі казаць, што змагаюцца супраць фашызму і ненавідзяць "фашызм", пад якім разумеюць тых, хто змагаўся за незалежнасьць, свабоду і дэмакратыю супраць імпэрскай Расеі. "Фашыстамі" аб'яўлялі цэлыя нацыі: эстонцы – гэта "фашысты", "они против России", украинцы – "они все фашисты-бандеровцы", БНФ – "фашисты", "они за белорусский язык" і г. д.

Усё гэта замбавалася, зьвярталіся да людзкой неадукаванасьці і нізкіх інстынктаў. У давяршэньне гэбізм сканцэнтраваў усе сродкі інфармацыі ў сваіх руках і арганізаваў такую сістэму інфармацыйна-прапагандысцкай ілжы, хлусьні, інсінуацыяў, якая можа быць толькі ў Расеі. Перад ёй нават гебельсаўшчына малее.

Фашызацыя грамадзтва Расеі адбывалася татальна і хуткімі тэмпамі, а інфармацыя пра гэта аб'яўлялася "антырасейскімі правакацыямі", "русафобіяй" і т. п. Усё трывала да таго часу, пакуль пуцінскі гэбізм не напаў на Украіну, не захапіў Крым і ня выявіў сваю сутнасьць у агрэсіўных дзеяньнях, зразумелых ва ўсім сьвеце як агрэсія, напад, анэксія, вайна. Сьвет ачнуўся ад ілюзіяў, але, як мне здаецца, яшчэ не ўсьвядоміў, што адбываецца.

Сыстэмы бясьпекі ў Эўропе, заснаванай на аснове дамоўленасьцяў і непарушнасьці межаў, больш не існуе. Галоўны фігурант гэтых дамоўленасьцяў Расея – краіна з самым вялікім патэнцыялам ядзернай зброі – паламала ўвесь парадак міжнародных абставінаў, зь цяжкасьцямі дасягнуты пасьля 2-й Сусьветнай вайны. Гарантыі і мэмарандумы вялікіх краін ператварыліся ў пустыя паперкі і нічога ня значаць. Сытуацыя вярнулася ў 30-я гады мінулага стагодзьдзя. На працягу шэрагу гадоў усе папярэджаньні беларусаў, палякаў, прыбалтаў аб агрэсіўнай сутнасьці Расеі, аб гэбізме ў Расеі як новай формы фашызму, аб падрыхтоўцы Расеі да вайны, - на ўсё гэта Захад не зьвяртаў увагі, ён, бачыце, спадзяваўся на "дэмакратыю" ў гэбоўскай імпэрскай краіне, даваў ёй мільярды крэдытаў.

Гісторыя канстатуецца, але, на жаль, не засвойваецца, бо ў палітыцы існуюць іншыя тэндэнцыі – вярнуцца ў гісторыю і ўвайсьці двойчы ў тую ж ваду. Тое, што робіць цяпер Пуцін і кампанія – гэта не псіхічны зрыў, не авантура, а цалкам сьведамае дзеяньне, нечаканае для Захаду. Расея разумее Захад дасканальна, а Захад Расею – не.

Некаторыя заходнія аналітыкі пішуць наконт паталёгіі крымскага псіхозу ў Расеі. Маўляў, Пуцін падставіў Расею пад санкцыі, а Крым пад дэградацыю і выміраньне. У выніку настане адьверазеньне і настроі ў расейцаў зьменяцца. Гэта чарговая ілюзія. Расейцы - гэта ня немцы, што ўжо амаль семдзесят гадоў каюцца пасьля вайны і адчуваюць сваю віну за злачынствы Гітлера. Расейцам такія пачуцьці віны і пакаяньне ў прынцыпе не вядомыя. У гісторыі Расеі такіх выпадкаў не было. Яны ня каяліся ні перад чачэнцамі, ні перад крымскімі татарамі, ні за Курапаты, ні за Галадамор украінцаў – увогуле, яны ніколі і ні за што не каяліся, бо ў іх іншая маральна-гістарычная ўстаноўка ў сьвядомасьці. Калі ў выніку авантурнай палітыкі Пуціна пасьля нападу на Украіну рускім стане жыць горш, калі пачнецца, напрыклад, эканамічны абвал, то будзе ня так, як думаюць на Захадзе, а так як адбываецца ў Расеі: псіхоз імпэрскага шавінізму пяройдзе ў амок шавінізму. І ня Пуцін стане ў іх вінаваты, а ўвесь сьвет - Амэрыка, НАТО, "предатели" і г. д. Будзем да гэтага гатовыя.

### Цяжкі час Украіны

Мушу паўтарыцца, што напад на Украіну рыхтаваўся ад самага пачатку заступленьня Пуціна на вяршыню расейскай улады. Сыстэмна гэта рыхтавалася за часы прэзыдэнта Януковіча. Тады ў структуры ўкраінскай улады і ўвогуле грамадзтва Масква ўсяліла тысячы сваіх агентаў, задача якіх была дэзарганізаваць украінскую дзяржаву, падрыхтаваць яе для лёгкага захопу.

Украінскую армію развалілі цалкам. Цяпер, калі пачаўся другі этап падрыхтоўкі агрэсіі, у паўднёва-усходнія гарады заслалі са зброяй сотні дыверсантаў і тысячы сабатажнікаў пад выглядам турыстаў. Яны вытвараюць там што хочуць, а ўкраінская дзяржава ня ў стане ні перакрыць мяжу, ні абараніць гарады ад нашэсьця. Добрая палова ўкраінскай міліцыі падкуплена расейскай агентурай. Міліцыя бязьдзейнічае. Уся расейская ФСБ кінута зараз на ўсход і поўдзень Украіны дзеля падрыхтоўкі правакацыяў і стварэньня ўмоваў для ўварваньня.

Адбываецца расейская акупацыя, ідзе вайна на тэрыторыі Украіны новымі расейскімі мэтадамі, узброеныя сучаснай зброяй вайсковыя адзелы ГРУ захопліваюць украінскія гарады, на вайсковых машынах падвозяць падмацаваньні - зброю і жывую сілу, а часовая кіеўская ўлада ня ведае, што рабіць (у сучаснай ж вайне няма франтоў і акопаў). Расейскія фашысты жаруць Украіну па частках, як зграя ваўкоў, загнаўшы ласю, рвуць яго па-жывому, а кіраўніцтва ў Кіеве, відаць, узброшае, якую шчаку яшчэ падставіць расейскім жывадзёрам. Сапраўды становішча Украіны проста трагічнае. Новая ўлада не дае магчымасьці іншым краінам дапамагчы Украіне, бо яна не супраціўляецца.

Справа ня ў Крыме, не ў паўднёвых і ўсходніх вобласьцях Украіны. Справа ва ўсёй Украіне, якую Пуцін пляную ліквідаваць як дзяржаву. Захоп па кавалках – гэта адцягваючы манэўр, бо галоўны ўдар рыхтуецца ў Кіеве. Шмат будзе залежаць ад таго, як украінцы ўмацуюць Кіеў і засьцерагуць урадавыя будынкі.

Пуцін мог бы адкласьці шырокае ўварваньне, калі б былі гарантыі перамогі на выбарах 25 траўня кандыдата на прэзыдэнта Украіны выгаднага Маскве (як мяркуюць многія украінцы, – Юліі Цімашэнкі). Калі гарантыяў ня будзе, маскоўцы пастараюцца сарваць выбары. Маштабнае ваеннае ўварваньне на Украіну – адзін з мэтадаў.

Складанасьць ва Украіне ў тым, што акрамя агульнага дзяржаўнага развалу тут прызначана (што для ўсіх відавочна) безаблічнае і нерашучае часовае кіраўніцтва дзяржавы. Дрэнна таксама, што яно вымушана ва ўсім цяпер слухаць Эўропу. Вынік гэтай залежнасьці – перасьлед і абмежаваньне дзейнасьці Правага сэктару – структуры, якая вынесла ўкраінскую рэвалюцыю на сваіх плячах. Тут відаць тыповая падвойная "палітычка" лібэральнага Захаду: прасоўваць свае паняцьці пра дэмакратыю і зьнішчаць нацыянальна-дэмакратычныя сілы, якія праводзяць моцную незалежную палітыку.

Такі сцэнар яны ажыцьцявілі ў Беларусі ў 90-х гадах, калі кінулі вялікія грошы і кадры на раскол Народнага Фронту і подкуп дэмакратычных маргіналаў, зь якіх клеілі потым "дэмакратычную апазыцыю". Супольнымі сіламі з рэжымам Лукашэнкі і з Масквой гэтыя заходнія "дабрадзеі" грунтоўна паніпшылі тады беларускую нацыянальную палітыку. Цяпер яны робяць тое самае ўжо ва Украіне.

### Праблемы ў Беларусі

Калі рускую акупацыю ня спыняць ва Украіне, то агрэсія будзе распаўсюджвацца далей. Але ўжо цяпер Масква, практычна, уцягнула антыбеларускі рэжым у падрыхтоўку ўдара па Украіне. Расейцы перакінулі 24 свае самалёты на стратэгічны беларускі аэрадром у Бабруйску, нават не паставіўшы ў вядомасьць свайго сатрапа. Гэтым засьведчана, што сувэрэнітэту ад Расеі ўжо няма. Зрэшты, яго няма ўжо з 1996 года, калі Лукашэнка насуперак Канстытуцыі ліквідаваў мяжу з Расеяй.

Мяркуецца, што Расея сьцягвае свае войскі ў акупаваную Беларусь для ўдару па Кіеву. У апошні час у Менску сталі заўважаць дзіўных ваенных у пагонах, але без ніякіх вайсковых адзнак. Яны гавораць па-руску. Але чыё гэта войска – сказаць цяжка. Магчыма, нават беларускае. Гэта сьведчыць, што маскоўскі гэбізм намераны ўцягнуць антыбеларускі рэжым у канфлікт і запляміць нашых людзей у братазабойчай вайне.

Подласьць Масквы нямераная. Яна ведае нашыя цёплыя адносіны да ўкраінцаў, а ўкраінцаў да беларусаў. Украінцы – гэта нашыя сапраўдныя браты. Мы гаворым кожны на сваёй мове і разумеем адзін аднаго. І тут гэбоўскай Маскве трэба пасеяць нянавісьць між намі. Такога нельга дапусьціць, бо вайна Украіны з Расеяй – гэта і нашая вайна з акупанцкай Масквой. Беларускія жаўнеры павінны быць гатовыя павярнуць зброю супраць расейскіх акупантаў, а ў выпадку прымусу перастраляць акупанцкіх афіцэраў і ваяваць на баку ўкраінцаў за нашу і іхнюю свабоду.

Перамагае той, хто змагаецца. Дапамагаюць таму, хто супраціўляецца. Настае вызначальная пара. Трэба быць да яе гатовымі.

Жыве Беларусь!

*Зянон Пазьняк*

# Беларусы ў Чыкага

Беларуская прысутнасьць у Чыкага мае сваю адметную гісторыю. Гэты горад меў развітую індустрыю і быў вядомы сваім рабочым рухам. Патрэба ў працоўнай сіле прыцягвала эмігрантаў. На заробкі ехалі сюды і беларусы, пакідаючы сем'і дома, а потым вярталіся з грашыма, каб запачаткаваць уласную гаспадарку. Маладзейшыя стварылі на чужыне свае сем'і і частка зь іх зь дзецьмі-амэрыканцамі па пашпарту вярталіся на Бацькаўшчыну, а некаторыя заставаліся і назусім.

Вядомы ў Беларусі колішні супрацоўнік амэрыканскай амбасады ў Менску Джон Кунстадэр пісаў пра сябе: "Я вырас на Чыкагшчыне. Можам лічыць Чыкага горадам Вялікага Княства (Літоўскага -Г.С.), бо здаўна там жывуць палякі, літоўцы, украінцы, беларусы...". Джон Кунстадар захапляецца фатаграфаваньнем, ён шмат здымаў у Беларусі і прысьвячаў гэтай справе ад 2006 году да 90 дзён штогод.



*Служба ў царкве*

У 20-30-я гады мінулага стагоддзя ў Чыкага існавала даволі значная беларуская грамада. І таму менавіта сюды ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі накіраваў дзеля арганізацыйнай працы сярод беларусаў былога старшыню Народнага сакратарыяту БНР Язэпа Варонку. У 1923 годзе ён прыехаў у ЗША, узначальваў Беларуска-амэрыканскую нацыянальную асацыяцыю, быў адным з кіраўнікоў Беларуска-амэрыканскай нацыянальнай рады, выдаваў газэту «Беларуская трыбуна». Памёр 4 ліпеня 1952 году.

Сярод вядомых актыўных беларускіх дзеячаў у Чыкага быў таксама і іншы дзеяч БНР Янка Чарапук, які прыехаў туды ў 1922 годзе і памёр у 1957 годзе.

Па дадзеных Беларускага камітэту ў Празе ў 1930 годзе ў Чыкага налічвалася прыкладна 25000 беларусаў. Аднак, актыўнасьць беларускай грамады паволі згасала, асабліва пасьля адыходу ў вечнасьць лідараў.

Беларускае жыцьцё ў Чыкага было ажыўлена новымі эмігрантамі, якія апынуліся ў Амэрыцы пасьля Другой усясьветнай вайны. Як вядома, пасьляваенная хваля эміграцыі складалася пераважна з нацыянальна-сьведамай часткі беларускай нацыі, якая не хацела жыць пад уладаю саветаў і эмігравала на Захад. Асталяваўшыся на новым месцы, гэтыя людзі стварылі новыя беларускія арганізацыі, заснавалі беларускія цэрквы, пры якіх буяла нацыянальна-культурнае жыцьцё. У Чыкага праваслаўныя беларусы пабудавалі сваю Царкву Сьв. Юры на 1500 North Maplewood Ave. Актыўнай дзейнасьцю былі вядомыя ў гэтай грамадзе сп. Каленік, сп. Латушкін і шмат іншых.

Адметна, што ў Чыкага на 3107 West Fullerton Ave існавала і беларуская уніяцкая царква Хрыста Выратавальніка, якая дзейнічала ў многім дзякуючы беларускім уніяцкім сьвятарам (ра іх будзе гаворка ніжэй) і актыўнасьці сем'яў Вітаўта і Веры Рамукоў, Жызьнеўскіх і інш. На жаль, гэтая царква у 2003 годзе была прададзеная, бо не стала ні сьвятароў ні вернікаў.

Такі ж лёс, магчыма, чакаў бы праваслаўную царкву і беларускі культурны цэнтр пры ёй. Аднак, на шчасьце, так не сталася. Новая эміграцыя ўзяла на сябе клопат пра захаваньне беларускага жыцьця. Асаблівую ролю тут сыгралі беларусы з Польшчы, якія звыклі трымацца сваёй беларускасьць дома і прыклалі шмат высілкаў для таго, каб адрамантаваць Царкву Сьв. Юры і сарганізаваць яе паўнавартасную дзейнасьць. Да іх далучыліся і эмігранты зь Беларусі. Цяпер гэта ўжо дзейсны беларускі асяродак у Чыкага, які мае на сёньня важкія набыткі. Мы ўжо пісалі ў нашай газэце пра стварэньне там Гуртка БАЗА.

Надзвычай важна тое, што беларускае жыцьцё там будуецца пад бел-чырвона-белым сьцягам, што асноваю дзейнасьці ёсьць нашыя беларускія адраджэнскія традыцыі. Як і старэйшае пакаленьне эмігрантаў, новыя беларусы штогод сьвяткуюць Дзень Волі 25 сакавіка, адзначаюць гадавіны Слуцкага паўстаньня, праводзяць Чарнобыльскія імпрэзы.

На сёлетняе сьвяткаваньне 96-й гадавіны абвяшчэньня незалежнасьці БНР былі запрошаныя прадстаўнікі Галоўнай управы БАЗА. Такім чынам, мне, як старшыні Галоўнай управы разам са старшынёй Бруклінскага аддзелу Тацьцянай Красоўскай надарылася магчымасьць непасрэдна пазнаёміцца з чыкагскімі беларусамі.



*Могільнік пры кляштары*

Ад гэтай сустрэчы засталіся самыя прыемныя ўражаньні. Нас прынялі вельмі гасьцінна. Сьвяткаваньне адбывалася 30 сакавіка ў грамадзкім цэнтры пры Царкве Сьв. Юры. Ішла я туды з асаблівым хваляваньнем. Была я ў гэтай Царкве 20 гадоў назад і мне было неабыякава, як яна захавалася да сёньня. Уразіла з першага погляду, якая вялікая праца была ўкладзеная для адраджэньня будынку. Цудоўны інтэр'ер, якасны рамонт - усё вакол блішчыць, дагледжана, дапасавана. Прыгожа прыбраная царква, вялікая мадэрнowая грамадзкая заля, вялікая зручная кухня пры ёй. Звонку ўсё таксама выглядае дагледжаным, кожная цаглінка, вялікая паркоўка пры царкве. Нам з Нью-Ёрку нават стала неяк зайздросна, бо мы пакуль так не здолелі ўпарадкаваць сваю царкву.

Людзей на сьвята сабралася досыць шмат, заля была поўная. У царкве адбыўся малебен за беларускі народ. Сьвятар а. Міхаіл Пасэка паходзіць з Украіны, але мае добрае адчуваньне і спрыяльнасьць да беларускіх праблемаў. Прыемна было бачыць, што сьвятару прыслугоўвалі недзе 5-6 чалавек падлеткаў і дзяцей, далучаных бацькамі да царквы.

Старшыня Гуртка БАЗА сп. Жанна Чарняўская зрабіла зьмястоўны рэфэрат на тэму БНР. У сваім выступе я павіншавала прысутных са сьвятам ад імя БАЗА і таксама засяродзілася на будучай дзейнасьці і накірунках, папрасіла, каб чыкагскія беларусы адшукалі магілкі дзеячаў БНР Язэпа Варонкі і Янкі Змагара і, па магчымасьці, дагледзілі іх, ускладалі кветкі на Дзень Волі, як гэта робіцца ў Празе.

Сьвята завяршылася смачным абедам, які падрыхтавалі жанчыны з удзелам матушкі Кацярыны. Прыемнаю часткаю сустрэчы сталася знаёмства з асобнымі людзьмі. Сп. Яўген Весялоўскі - старшыня Парафіяльнай рады быў гасьцінным гаспадаром, ён паходзіць з Падляшша і ёсьць шчырым беларускім патрыётам, які ўзяў на сябе клопаты па ўтрыманьню царквы і ўсяго грамадзкага цэнтру і далучыў да гэтай справы свайго сына Мілаша. Са сп. Жаннай Чарняўскай яны актыўна супрацоўнічаюць, Жанна зьяўляецца намесьнікам старшыні Парафіяльнай Рады. Многія фінансавыя і гаспадарчыя справы ляжаць на плячах сп. Андрэя Іванюка, ён сябра Парафіяльнай рады і мае абавязкі скарбніка.

На жаль, не сустрэла я там нікога са старэйшага пакаленьня, якіх памятала яшчэ з першага прыезду. З той паваеннай эміграцыі ў царкву прыходзіць толькі адна сп. Лідзія Швэфэль, пра якую я ведала завочна, як пра беларускую беженку, што ўцякала ад бальшавікоў на ровары па лёдзе. Яе бацька некалі быў у войску генерала Булак-Булаховіча. Сп. Лідзіі пайшоў 89 год. Ейнае незвычайнае для беларускі прозьвішча дасталося па мужу, з якім пражылі доўгае і шчасьлівае жыцьцё. Даніла Швэфэль быў немцам па паходжаньні, але выгадаваным на беларускім Палесьсі. Разам яны былі вельмі актыўнымі ў беларускай грамадзе і Даніла нават намаляваў "Пагоню" для беларускага цэнтру.

Асобна хочацца сказаць пра тыя добрыя кантакты, якія склаліся з з кіраўнічкаю Гуртка БАЗА сп. Жаннаю Чарняўскай. Яна сустрэла нас на лётнішчы і прапанавала замест гатэлю спыніцца ў яе доме. Дом гэты выглядае прыгожа і ўтульна, знаходзіцца ў горадзе Нэпэрвіл (Naperville) гадзіну язды аўтам да Чыкага. Жанна жыве там з мужам Аляксандрам і двума дзецьмі. Дачка Жэня ўжо студэнтка і дахаты наведваецца толькі па выходных, а сын Андрэй - падлетак вучыцца ў школе і дзейсна дапамагае маці ў беларускіх справах, прыслугоўвае пад час службаў у царкве. Прыходзілася толькі зьдзіўляцца, як Жанна спраўляецца з усімі сваімі шматлікімі абавязкамі ў сям'і, у беларускай грамадзе і ў школе, дзе рыхтуецца да працы настаўніцаю хіміі. Жанна і яе муж абодва хімікі па адукацыі, у Амэрыцы муж дастаў працу, так і апынуліся ў Чыкага. Жанна родам з Менску, на чужыне стала адразу шукаць суродзічаў, недзе ў 2005 ці 2006 годзе знайшла беларускую царкву. Далучылася да працы грамады і выявіла свае добрыя арганізацыйныя здольнасьці. Беларуская справа для яе сталася важным чыньнікам жыцьця і ў гэтым яе падтрымлівае сямья, у першую чаргу муж, расеец па паходжаньні. Мне падаецца, што сп. Чарняўская ёсьць сёньня той



*Зьлева - направа) Тацьцяна Красоўская, Яўген Весялоўскі, Жанна Чарняўская, Ганна Сурмач*

# Беларусы ў Чыкага

асобаю, якая здолее ўзьняць беларускае жыцьцё ў Чыкага на новы ўзровень, яна мае надзвычай важную рысу характару для гэтага - высокую адказнасьць за ўзятую справу.

Бліжэйшай паплечніцаю для старшыні Гуртка



*Лідзія Швэфэль і Ганна Сурмач*

БАЗА зьяўляецца сакратарка Гуртка сп. Валянціна Вішнеўская, яна вельмі кантактная і па-сяброўску настроеная асоба. Глыбока ўспрымае ўсе сёньняшнія праблемы Беларусі, мае складаны жыцьцёвы лёс і пры тым застаецца вельмі аптымістычным чалавекам. Як балюча яна ўспрымае беларускія справы можаце адчуць з ейнага артыкула, які падаем далей пра дзейнасьць беларускай грамады ў Чыкага, які істотна дапоўніць пададзеную тут інфармацыю. Яна ж таксама ёсьць аўтаркаю яшчэ аднаго артыкулу ў гэтым нумары пра чарнобыльскую бяду.

На наступны дзень пасьля сьвяткаваньня сп. Жанна, якая мела вольны час па прычыне вакацыяў у школе, арганізавала разам з сынам мне экскурсію па сваім горадзе і ваколіцах. Для мяне было вельмі цікава пабачыць знутры жыцьцё ў амэрыканскай глыбінцы. Уразіла, як людзі даглядаюць і любяць мейсца свайго пражываньня. Мясцовая мастачка, напрыклад, вырашыла ўпрыгожыць свой горад і ўшанаваць ягоных жыхароў. Яна размалявала доўгую і раней пустую сьцяну ў завулку партрэтамі людзей і сцэнкамі з гарадзкога жыцьця. З сумнага і глухога завулка атрымалася мастацкая галерэя.

Але найбольш цікава для мяне было тое, што і ў гэтым далёкім ад Беларусі месцы знайшліся напамінкі пра беларускія сьляды. Жанна завязла мяне на недалёкі маленькі могільнік пры бенедыктынскім кляштары св. Пракопа ў Лайл (Lisle). Там пахаваныя два беларускія сьвятары Ян і Уладзімір Тарасевічы і іх блізкія, ёсьць там і пахаваньні іншых людзей з беларускімі прозьвішчамі.

Ксёндз Ян Хрызастом Тарасевіч трапіў у ЗША на пачатку ХХ стагоддзя, пазьней вывучаў тэалёгію ў Канадзе і Швейцарыі. Ад 1937 году працаваў у манастыры св. Пракопа ў Лайл (Lisle). Айцец Ян быў незвычайна актыўным дзеячам як рэлігійнага, гэтак і беларускага нацыянальнага жыцьця ў эміграцыі.




*Магілка а. Яна Хрызастома Тарасевіча*

Напярэдадні Другой усясьветнай вайны да яго з Заходняй Беларусі пераехаў ягоны пляменьнік Уладзімір Тарасевіч. Адвучыўшыся ў духоўнай сэмінарыі бенедыктынцаў, Уладзімір скончыў Каталіцкі ўніверсітэт у Вашынгтоне. Калі атрымаў сьвятарскія пасьвячэньні, перайшоў у грэка-каталіцкі абрад і стаў дапамагаць свайму дзядзьку, кс. Яну Тарасевічу. Айцы Ян і Уладзімір займаліся ў Чыкага выдавецкаю дзейнасьцю, выпускалі некалькі часопісаў на беларускай мове, дапамагалі стварыць беларускую праграму на мясцовым радыё. Разам з праваслаўнымі беларусамі яны ладзілі сьвяткаваньне 25 Сакавіка.

У 1958 годзе, калі а. Уладзімір абараніў доктарскую працу ў тэалёгіі, ён зьмяніў свайго дзядзьку на пасадзе пробашча беларускай уніяцкай Парафіі Хрыста Збаўцы ў Чыкага. У 1959 годзе зь ягоных вуснаў беларуская мова прагучала ў Кангрэсе ЗША, дзе чыталася малітва за беларускі народ. У 1983 годзе Папа Рымскі Ян Павал ІІ надаў а. Уладзіміру годнасць біскупа і прызначыў галавою каталікоў-беларусаў абодвух абрадаў у эміграцыі.

Кс. Ян Тарасевіча памёр у 1978 годзе, а ў 1986 годзе пасля цяжкай анкалягічнай хваробы пайшоў з жыцьця і біскуп Уладзімір.

Наведалі мы і бенедыктынскі кляштар св. Пракопа ў Лайл. Вельмі прыгожая мясьціна, цудоўная навакольная прырода і сучасны будынак манастыра. Раней мне даводзілася бачыць толькі манастыры сярэднявечнага выгляду. А гэта - вялікая будыніна з чырвонай цэглы ў стылі мадэрн, уваход свабодны, можна зайсьці у капліцу памаліцца, можна зайсьці у вялікую актавую залю, дзе адбываюцца зборы і лекцыі. Усё дасканадла дагледжана, зроблена з добрым мастацкім густам.

У кляштары св. Пракопа захоўваецца памяць пра дзейнасьць слаўных беларусаў. Дагэтуль там існуе капліца ў візантыйскім стылі, у якой айцы Ян і Уладзімір Тарасевічы правілі грэка-каталіцкую літургію. На адным з памятных стэндаў у кляштары турыстам паказваюць старыя фатаграфіі, на якіх беларускія сьвятары прычашчаюць вернікаў у былой беларускай грэка-каталіцкай царкве.

Варта згадаць тут, што ў Чыкага працаваў яшчэ адзін вядомы беларускі каталіцкі сьвятар Міхаіл Урбановіч, магістар тэалёгіі, манах-марыянін, місіянер, удзельнік беларускага хрысьціянскага руху ХХ ст. Нарадзіўся на Гарадзеншчыне, у 1924 г. выехаў у ЗША. Працаваў на пасадзе прафэсара ў духоўнай семінарыі каля Чыкага, вучыўся ва ўніверсітэце Лаёлы, дзе абараніў магістарскую дысертацыю па тэалёгіі. Быў знаёмы з а. Янам Тарасевічам. Служыў у касьцёле Маці Божай Вострабрамскай у Чыкага. Апошнія гады жыцьця правёў у доме-прытулку. Памёр 4.8.1973, пахаваны ў Чыкага на могілках сьв. Казіміра.

У Чыкага і ваколіцах беларуская эміграцыя пакінула шмат сьлядоў і, каб яны не сьцерліся, трэба, найперш, працягваць справу папярэднікаў, трымаць беларускае жыцьцё, цэрквы як асяродкі духоўнага і грамадзкага жыцьця.

Выказваем падзяку ад Галоўнай управы БАЗА чыкагскім беларусам за іх працу, за іх намаганьні аб'яднаць беларусаў у гэтым стратэгічна важным рэгіёне Амэрыкі. Жадаем, каб гэтая праца прыносіла ўсё больш важкі плён дзеля агульнай беларускай справы і дзеля душы кожнага беларуса, хто не забываецца пра ўласныя карані і пра сваю адказнасьць перад сваёй нацыяй.

*Ганна Сурмач*

# "У нас на Чыкагшчыне"

Не так даўно, праглядаючы паведамленьні на старонцы газэты "Чыкага. Ру", я знайшла адно, якое ўразіла мяне да самага сэрца. На пытаньне, ці ёсьць ў Чыкага такое месца, дзе зьбіраюцца беларусы, хтосьці вельмі катэгарычна адказаў, што не, няма, як няма і беларускай царквы. Уразіла мяне нават не тое, што чалавек бярэ на сябе права адказваць, не ведаючы аб праўдзівым стане рэчаў, як тое, наколькі яскрава ў гэтым адказе гучыць знаёмая мне яшчэ з дому нотка непавагі да беларусаў, як нацыі. Чамусьці ніхто не пытае, дзе збіраюцца літоўцы, латышы альбо эстонцы, ужо як бы само сабой зразумела, што ў іх ёсьць нацыянальныя культурныя цэнтры.

Трэба шчыра прызнаць, што нацыя мы і сапраўды цікавая: маючы такіх легендарных герояў, як Леў і Павал Сапегі, цэлая плеяда Радзівілаў, Канстанцін Астрожскі, Тадэвуш Касцюшка і Кастусь Каліноўскі, збок якіх нават самыя «крутыя» персанажы клясычных раманаў трацяць свае фарбы, не ўмеем ацаніць таго,што яны зрабілі для нас і не ўмеем заманліва расказаць пра іх ня толькі за межамі сваёй краіны, але нават і сваім грамадзянам. У нашага народа скралі яго гераічную гісторыю, скралі наўмысна, каб зрабіць народ-ваяр простым насельніцтвам той часткі свету, якую дзе-нідзе настойліва празываюць Беларусіяй, каб пазбавіць нас павагі і гонару за сваё мінулае, пазбавіць самаідэнтыфікацыі, як вялікага народа... А калі народ пазбаўляюць волі да самасьцьвярджэньня, свабоды і незалежнасьці - з такім народам можна рабіць ўсе, што пажадаеш.

Не, браткі мае! Не ўсё так кепска ў нас тут, на Чыкагшчыне! Ёсьць у нас і беларуская суполка, хай і невялікая, але сьвядомая і з надзеяй пазіраючая ў будучыню. Ёсьць і Беларуская праваслаўная царква, якая аб'ядноўвае пад сваім дахам ня толькі праваслаўных беларусаў, але і людзей іншых веравызнаньняў, якія лічаць Беларусь сваёй радзімай, маюць беларускія карані альбо з павагай ставяцца да беларускага народу, яго культуры і мовы.

Нядаўна пачаў працаваць вэб-сайт "Беларусы ў Чыкага", які мае мэту аб'яднаньня разрозьненых асяродкаў і асобных людзей беларуская паходжаньня. Сайт створаны таксама з мэтай практычнай дапамогі тым, хто нядаўна прыехаў ў ЗША, альбо толькі зьбіраецца да пераезду. Суполка хоча як мага больш аблегчыць працэс зьмены месца жыхарства, уладкаваньня на працу ці вучобу, знаходжаньня свайго месца ў жыцьці краіны, дзе воляй лёсу мы апынуліся.

Наша краіна заўсёды была шматнацыянальнай і мультырэлігійнай, але ніводзін яе жыхар не выпіхваў асобай другога гатунку. Усім хапала месца пад сонцам нашай сінявокай Радзімы, таму цяпер суполка праклямуе: кім бы чалавек не быў, да якой нацыянальнасьці альбо

*Працяг на 10-й бачыне*

# «Чарнобыльскі шлях – 2014»




26 красавіка ў Менску адбылася акцыя да 28-й гадавіны Чарнобыля. У ёй бралі ўдзел прыкладна 500 чалавек, гэта быў найменшы па масавасьці "Чарнобыльскі шлях" за ўсе папярэднія гады. Запалоханае грамадзтва не адважваецца больш пратэставаць. Акцыя скончылася затрыманнем некаторых актывістаў і наступнымі судамі над імі. Мерапрыемства прайшло пад лёзунгамі абароны Беларусі ад ядзернай небясьпекі з боку Расеі і салідарнасці з Украінай. Актывісты антыядзернага руху запатрабавалі неадкладна спыніць будаўніцтва Астравецкай АЭС, раскрыць усю праўду пра наступствы Чарнобыльскай катастрофы.

# Гадавіна Чарнобыля ў Нью-Ёрку



Сёлета адзначэньне Чарнобыльскай гадавіныў Нью-Ёрку супала з праваслаўнай Раданіцаю. З гэтай нагоды 27 красавіка ў Саборы Сьв. Кірылы Тураўскага адбыўся малебен за супакой душаў памерлых беларусаў і ахвяраў Чарнобыльскай катастрофы. Пасьля Багаслужбы ў грамадзкай залі прайшла адмысловая імпрэза ў памяць пра Чарнобыль. Сп. Зянон Пазьняк у сваім выступе узгадаў падзеі таго часу, пра палітыку замоўчваньня наступстваў аварыі, пра тое, што рабілася грамадзкімі сіламі, каб інфармаваць беларусаў і сьвет пра сапраўдную небясьпеку, што нёс у сабе Чарнобыль.

Пра новую праблему, зьвязаную з атамнай энэргетыкай, распавёў Андрэй Асадчы, які прывёў канкрэтныя прыклады таго, як неахайна будуецца ў беларусі новая атамная электрастанцыя, якія праблемы і нават сапраўдную бяду яна можа прынесьці ў будучыні.

*Ганна Сурмач*



# "У нас на Чыкагшчыне"

*Працяг з 9-й бачыны*

веравызнаньня ні належаў, калі ён хоча быць часткай нашай суполкі - шчыра вітаем і запрашаем!

Беларуская суполка створана ня сёньня. Сваё нацыянальнае жыцьцё беларускія эмігранты запачаткавалі ў Чыкага яшчэ ў 20-гады мінулага стагодздзя, а потым іх справу працягнула паваенная эміграцыя, якая набыла будынкі, заклала цэрквы. Новая эміграцыя з Беларусі і пераважна зь беларускіх рэгіёнаў Польшчы пераняла эстафету і заклала новую супольнасьць, якая дзейнічае ўжо амаль 4 гады і вядзе плённую працу на карысьць беларусаў Чыкага, найперш ў галіне захаваньня народных традыцый, у галіне асьветніцтва, зьберажэньня гістарычнай памяці нашага народу, аб'яднаньня аднадумцаў.

Сталі традыцыйнымі штогадовыя супольныя сьвяткаваньні Калядаў, беларусы Чыкага, як калісьці рабілі іх дзяды і прадзеды, зьбіраюцца разам , каб пакалядаваць, павесяліцца, пасьпяваць, патанчыць, сустрэцца з сябрамі, павіншаваць іх з Раством Хрыстовым і надыходам Новага года.

Урачыста мы адзначаем Дзень Волі, 25 сакавіка, калі было абвешчана аб незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі. Сьвяткуем Купалле- такое любімае ўсімі беларусамі. На Дзяды - памінаем продкаў, успамінаем адыйшоўшых у нябыт сваякоў, знаёмых, тых, хто аддаў сваё жыцьцё за Радзіму альбо быў забіты ці закатаваны ў часы крывавых навальніц, грымеўшых над нашай шматпакутнай Айчынай.

Суполка арганізоўвае таксама лекцыі і прэзэнтацыі, імпрэзы, прысьвечаныя вялікім гістарычным падзеям з жыцьця Беларусі: Аршанскай бітве 1514 года, гадавінам паўстаньня Тадэвуша Касьцюшкі 1794 г., Кастуся Каліноўскага 1863г., стварэньню ў 1918 г. БНР, гадавінам выдатных гістарычных і культурных дзеячоў Беларусі альбо Вялікага Княства Літоўскага.

На сьвяты і культурныя імпрэзы збіраюцца разам чыкагскія беларусы - як перасяленцы з самой Беларусі, так і з раёнаў Польшчы, заселеных этнічнымі беларусамі (Беласточчына, Белая Падляска), а таксама тыя, хто пачувае сябе блізкімі да нас. Ніхто не пачувае сябе чужынцам у нашым асяродзьдзі , бо беларусы наогул заўсёды славіліся талерантнасьцю да іншых нацый і культураў.

Наша суполка мае грамаддзе плянаў на будучыню - гэта і стварэньне беларускай школкі для дзетак, каб і далей было каму несьці ў сьвет родную мову, выйсьце на радыё, публікацыі ў прэсе, сацыяльная і юрыдычная дапамога тым, каму яна тэрмінова патрэбная, і шмат чаго іншага, чым і павінна займацца паважаючая сябе нацыянальная дыяспара за мяжой.

Зыходзячы з патрэбаў і мэтаў, мы запрашаем усіх тых, каму неабыякавая беларуская справа, далучацца да нас! Чакаем вас, сябры!

Жыве Беларусь!

*Валянціна Вішнеўская,*
*Сакратар Гуртка БАЗА у Чыкага*

# Чарнобыль, які заўсёды з табой

Чарговая гадавіна, ужо 28-я (як імкліва і няспынна ляцяць час!) той смутнай падзеі, якая падзяліла лёсы выхадцаў з Беларусі, Украіны, некаторых вобласьцей Расеі на дзьве паловы: да выбуху на Чарнобыльскай атамнай станцыі і пасьля яго. Чорны дзень нашай сучаснай гісторыі - 26 красавіка1986 года, які закрануў кожнага жыхара Беларусі, ад старога чалавека да немаўлятка ў калысцы і нават яшчэ ненароджаных дзяцей. Сумныя факты:

- вядома, што пасьля аварыі на ЧАЭС у паветра было выкінута ў 300 разоў больш радыеактыўных речываў, чым пасьля атамнай бомбы над японскім горадам Хірасіма.
- больш за 70 працэнтаў радыенуклідаў аселі на абшарах Беларусі. Ад наступстваў катастрофы пацярпелі амаль 2 мільёны з прыблізна 10 мільёнаў жыхароў нашай краіны, у тым ліку больш за 500 тысяч дзетак. Навукоўцы лічаць, што ад радыяцыі ў Беларусі ўжо памерла 200 тысяч чалавек, хоць падаецца мне, што гэта лічба вельмі заніжаная. Терыторыя Беларусі на многія стагодзьдзі стала зонай экалягічнага бедства...
- Беларускія ўлады злачынна хавалі тады і зараз замоўчваюць праблему радыяцыі і барацьбы з наступствамі аварыі на ЧАЭС. За час кіраваньня Аляксандра Лукашэнкі ў Беларусі была выразна скарочана колькасьць зонаў са сталым радыяцыйным кантролем. Сёньня на моцна заражаных тэрыторыях (ад 15 да 40 кюры) жыве 140 000 чалавек, хаця у Расеі і Украіне з такіх зонаў даўно ўсіх адсялілі. Беларускія ўлады заяўляюць, што гэтыя тэрыторыі «ачысьціліся», і заклікаюць людзей вяртацца ў небясьпечную для жыцьця зону.
- практычна ўсе беларусы спажываюць радыяцыйна забруджаныя прадукты, якія выпрабляюцца ў тым ліку і ў непасрэдна моцна забруджаных рэгіёнах.

Вельмі часта ў апошнія гады, у цішы амерыканскай бяссоннай ночы, я раздумваю і не магу ўявіць сабе, як бы склаўся мой асабісты лёс, лёс маіх блізкіх і сяброў, калі б той дзень ў красавіку 1986 прайшоў без трагічнага здарэньня... Усе беларусы - чарнобыльцы, усе мы пакутуем ад той страшнай аварыі, бо носім у сабе сляды трагедыі. Але Чарнобыль у кожнага з нас свой, асабісты! Мой асабісты Чарнобыль мае розныя колеры і адценьні, розныя назвы і выявы...

Чарнобыль маёй памяці – тэлефонная размова ў пачатку траўня 1986 года з маёй памерлай ужо матуляй: я ў першы раз пасьля нараджэньня дзяцей вырвалася " ў шырокі сьвет", пакінуўшы дзетак з маімі бацькамі... Телефаную дадому з залітай шчодрым узбецкім сонцам, мірнай яшчэ Ферганы, чую заклапочаны матулін голас: "Дачушка, вяртайся хутчэй дадому! Штосьці здарылася, людзі кажуць, што ў Менску стаяць пад парамі цягнікі, можа, нас зноў пачнуць высяляць... Згубімся - і ніколі не здолеем знайсьці адзін аднога!" Як цяпер памятаю боль і трывогу ў яе голасе - голасе

*Працяг на 11-й бачыне*

# Чарнобыль, які заўсёды з табой

Працяг з 10-й бачыны

чалавека, які добра ведаў, што такое "згубіцца" (пасьля высылкі яе сям'і ў 1937 г. ў Сібір і сьмерці бацькоў на лесапавале, матулін малодшы брат знайшоўся толькі напрыканцы 60-х). Я сьмяюся: "Матуля, аб чым ты гаворыш, якая высылка, і што там магло здарыцца? Не выдумляй абы-чаго! Пацалуй за мяне дзетак! Праз 2 тыдні буду дома!". Ніколі не змагу дараваць сабе, што я была ў той час далёка ад дому, у бясьпецы, калі на галовы маіх блізкіх, маіх маленькіх дзяцей авіятары штучна асаджвалі хмары з чарнобыльскім брудам, каб тыя не дайшлі да Масквы. У 2007 годзе ў Сеціве зьявіўся фільм пад назвай "Гульня ў Бога з надвор'ем" зь інтэрвію адзінага на той час жывога "героя" злачынства ў небе над Беларуссю, былога вайсковага лётчыка Аляксея Грушына. З таго часу я ўжо ніколі не езьдзіла з матуляй па журавіны ў яе родную вёсачку на леваўзбярэжжы Беразіны - вялізнае балота, дзе яны расьлі і буялі, было агароджана калючым дротам з жоўтымі папярэджвальнымі знакамі " Радыяцыя".

Мой асабісты пякуча-балючы Чарнобыль - парушэньне развіцьця касьцей у майго малодшага сына, заўчасная сьмерць у 53 гады маёй малодшай сястры Галіны, доктаркі-вэтэрынара, якая правяла ў 30-кіляметровай зоне адсяленьня тры месяцы амаль адразу пасьля аварыі, усыпляючы хатнюю жывёлу, якая засталася без гаспадароў і, пранізліва равучы, блукала па вёсках і палетках... У той самы час, калі развароканы рэактар засыпаў усё наваколле радыяцыйным попелам, сястра працавала ў звычайным белым медычным халаце.

Мой асабісты Чарнобыль - змаганьне за жыцьцё 5-гадовай дзяўчынкі, дачкі маіх блізкіх знаёмых, якая памірала ад вострага лейкозу: сотні лістоў да знаёмых у Польшчы і Амэрыцы з просьбаю аб дапамозе. Праз тры месяцы яе ня стала, увесь горад выйшаў яе хаваць, а тут дайшла інфармацыя аб яшчэ адным дзіцяці – дачцы калегі зь вясковай школы, потым яшчэ і яшчэ... Кожны дзень прыносіў навіны аб кімсьці, каго закранула чорнае крыло Чарнобыля. Добра памятаю пякучае адчуваньне бездапаможнасьці і жаху перад бядой, якая звалілася на нашу краіну... Сёньня, на 28 гадоў пазней, заталефанавала сяброўка зь Беларусі: Ірына, адна з маіх першых вучаніц, ціхая, ветлівая, заўседы с прыемнай усьмешкай на твары жанчына 48 гадоў, амаль не выходзіць са шпіталя: лейкемія...Божухна, калі ж гэта скончыцца! За што Ты пракляў мой край?

Мой англамоўны Чарнобыль - 1988 г., суправаджэньне делегацыі амэрыканскай арганізацыі " Надзея-Экспрэс" на чале з амэрыканскім сьвятаром Полам Морам і яго падлеткам-сынам. Яны прыляцелі ў Беларусь з Амэрыкі на транспартным самалёце, запоўненым гуманітарным грузам для Чарнобыльскай зоны, купленым за грошы, сабраныя простымі амэрыканцамі - жыхарамі Нью-Ёрка. Мы едзем да майго роднага Беразіно (адзін з шасьці раёнаў Міншчыны, афіцыйна прызнаных забруджанымі радыяцыяй) з Мінску з фурай лекаў, медыцынскай апаратуры, дзіцячага харчаваньня. Я гляджу на правую руку Пола-малодшага і заўважаю павязаную на ёй чырвоную хусьцінку. На маё пытаньне ён адказвае, што хусьцінку падаравала яму беларуская дзяўчынка-падлетак, якую яны з бацькам на ўласныя грошы вывезьлі на лячэньне да Нью-Ёрка, хоць надзеі на выратаваньне амаль не было, і якая перад сьмерцю прасіла ўзяць хустачку на памяць аб ёй. З гарачынёй маладосьці ён паабяцаў дзяўчынцы ніколі не здымаць падарунка....Дзе цяпер тая хусьцінка? Шмат вады сплыло за 28 гадоў у Гудзоне... З-за штучна створаных нашымі ўладамі перашкод шматлікія гуманітарныя фонды і арганізацыі адыйшлі ад справы дапамогі пацярпелым ад Чарнобыля рэгіёнам. Беларусь засталася са сваім Чарнобылем амаль адзін на адзін!

Мой асабісты плённы Чарнобыль - гэта больш за 20 гадоў працы на карысьць беларускіх дзяцей, якія патрабавалі дапамогі і аздараўленьня. Хто ведаў тады, у далёкім 1977, у часы жалезнай заслоны і забароны на спатканьні і размовы з людзьмі з-за мяжы, калі мы ( і я, і сп. Аляксандр Лукашук, дырэктар Беларускай рэдакцыі Радыё "Свабода", мой інстытуцкі сябра, і сп. Андрэй Саннікаў, і шмат іншых вядомых на Беларусі асобаў) атрымалі дыпломы ў Мінскім інстытуце замежных моваў, дзе нашы веды спатрэбяцца на практыцы...

Ірляндыя, Англія, Германія, Аўстрыя, Галандыя, Бельгія, Італія, Туніс, Польшча... Вось няпоўны пералік краін, дзе давялося пабываць разам з чарнобыльскімі групамі! Не, гэта ня быў, як здавалася некаторым з маіх знаёмых, "вечны баль" і прыемны, лёгкі адпачынак... Дзеткі хварэлі, сумавалі аб бацьках, плакалі, нэрваваліся — мы, суправаджаючыя і перакладчыкі, былі для іх адзіным напамінам аб Радзіме, родным доме.

Памяць - злая мачаха не дае забыцца пра тую маленькую гомельскую дзяўчынку-сірату Алену, хворую на лейкемію, зь якой мне давялося правесьці тыдзень ў асобнай палаце шпіталя г. Tралі ў Ірляндыі. Яна з цяжкасьцю падымае галаву ад ложка і пытаецца ў мяне : "Цёця, чаму ты плачаш? Усе будзе добра!" Залатое маё дзіця, русакосае, блакітнавокае — праўдзівая беларусачка з казкі! Праз пару тыдняў прыходзіць вестка зь дзіцячага шпіталя ў Дубліне, куды яе забралі на ваенным верталёце: Алёнка памерла, хоць ратаваць яе сабралася ўся ірляндзкая эліта ўрачоў-педыятараў і анколягаў... Як забыцца тыя вочы і тое: "Усе будзе добра, цёця!" Той, хто пасядзеў бы побач са мной каля яе ложка, лёг бы папярок катлавану, пад колы "Белазаў", каб не дазволіць будаўніцтва Астравецкай атамнай станцыі ў Беларусі — няўжо не хапіла нам чарнобыльскага болю ды пакут за 28 гадоў? Калі ж настане "добра" для маёй Радзімы? Адказу няма!

Мой асабісты палітычны Чарнобыль - мая непрымірымая грамадзкая пазыцыя пасьля першых Чарнобыльскіх маршаў канца 80-х гадоў, палітычных падзей пачатку 90-х гадоў, асабліва дзяржаўнага перавароту (інакш не акрэсліць!) 1996 году, "славутага" рэфэрэндуму аб зьмене Канстытуцыі Беларусі, галава, разьбітая падчас разгону дэманстрацыі дубінкай амапаўца, гэта лёс маіх сыноў, адзін зь якіх быў змушаны прасіць палітычнага прытулку ў Амэрыцы, другі — маладафронтавец, удзельнік беларускага "Майдану" - Плошчы 2006г., стыпендыят фонда Кастуся Каліноўскага, былы студэнт Вроцлаўскага унівэрсытэту, палітвязень рэжыму Лукашэнкі, які правёў у беларускай турме 5 гадоў свайго маладога жыцьця, а зараз " хімічыць" - будуе пад пільным наглядам беларускай міліцыі новы лядовы палац у Шклове, на радзіме першага і "вечнага" правадыра беларусаў.

Сапраўды, я лічу, што Беларусь сёньня перажывае ня толькі фізычны, але і маральны Чарнобыль, які дашчэнту вынішчае чалавечыя душы: поўнае беспраўе, карупцыя, турмы, забітыя бязьвіннымі людзьмі, страх перад будучыняй, магутны эканамічны крызыс, бязьвер'е і бездухоўнасьць, павальнае п'янства , бо гарэлка каштуе менш за ежу... Дзяржава нішчыць сваіх грамадзян і дзяржаўную мову — вось які парадокс беларускай рэчаіснасьці! Глядзіш на нашых братоў-украінцаў, і зайздросьціш іх зацятасьці, унутранаму лачуцьцю таго, што ты не адзін, што ты частка народу, носьбіт векавых традыцый і моўнага багацьця нацыі.

А мы? Не шануем самі сябе, адракаючыся ад роднай мовы, хоць на сёньня толькі мова можа стацца той існасьцю, што аб'ядна нас як народ. Калі так пойдзе далей, Беларусь сама дасць права Расеі на анэксію сваёй тэрыторыі, бо калі няма мовы — няма і дзяржавы, няма народу.

Няма ў нас і галоўнага - няма ўпэўненасьці. Упэўненасьці ў тым, што нейкія нашыя спробы ня стануць марнымі, што нарэшце не застанешся адзін на полі бою. На вялікі жаль, наш народ даўся сябе жудасна запужаць. Мы баімся сказаць слова ў абарону саміх сябе, а што казаць пра абарону кагосьці іншага. Мы нібы чужыя адзін для аднаго... Нават тут, у Амэрыцы, далёка ад дому, даволі часта адчуваеш гэта. Мы па інэрцыі баімся і цураемся « палітыкі», зь цяжкасьцю зьбіраемся разам, зь недаверам ставімся да тых, хто імкнецца паяднаць нас...Такі вось жудасны агульнабеларускі Чарнобыль душ! Божа, дай нам моц вызваліцца ад яго не праз стагодзьдзі....

Але ёсьць у краіны надзея - на моладзь, якая не скарылася, як мой сын, нягледзячы на 20 гадоў дыктатуры і тэрору, якая гатова будаваць лепшую будучыню для сябе і для наступных пакаленьняў! Нездарма над украінскім Майданам годна луналі і беларускія бел-чырвона-белыя сьцягі.

Мой асабісты стыхійны Чарнобыль — гэта мая незапланаваная амэрыканская эміграцыя, калі дома засталося ўсё тое, што дорага і блізка: старэнькі тата, могілкі, дзе пахаваны некалькі пакаленьняў родных, у тым ліку матуля і адзіная сястра, бярозка пад вакном бацькоўскай хаты, сотні вучняў, якім аддавала цяпло свойго сэрца і веды... І хоць некаторыя зь іх таксама тут, у Амэрыцы альбо дзе-недзе на плянэце і з гатоўнасьцю выходзяць на сувязь, дапамагаюць, цікавяцца маімі справамі — сэрцам я дома, дзе засталося так шмат таго, дзеля чаго я зьявілася на сьвет і жыла дагэтуль! І баліць, баліць маё сэрца за зьнішчаны Чарнобылямі ўсякіх гатункаў край, і плача душа, патрабуючы выліць свае тужлівыя думы хоць на паперы... А папера—яна ж не чалавек, ўсё стрывае!

*Валянціна Вішнеўская,*
*Чыкага*

# Таварыству беларускай культуры ў Літуве 25 гадоў!

5 красавіка адна са старэйшых беларускіх арганізацый Літувы найноўшага часу -Таварыства беларускай культуры - адзначыла 25-годзьдзе сваёй дзейнасьці. Ля вытокаў стаялі: Хведар Нюнька, Лявон і Юрка Луцкевічы, Зоська Верас, Кастусь і Леакадыя Шышэі, Лявон Кароль, Мікола Рулінскі, Аляксей Анішчык і інш. Яны былі першымі пасьля амаль 50-гадовага забыцьця, хто ўзяўся за адраджэньне беларускасьці ў гэтым краі.

Установчы сход адбыўся 4 лютага 1989 г., на які сабралася больш за 200 чалавек, таксама былі прадстаўнікі і зь Беларусі. Пасьля яго арганізацыю зарэгістравалі пры Фондзе культуры Літувы, які ўзначальваў Чэслаў Кудаба. Старшынёй ТБК быў абраны Хведар Нюнька, які застаецца на гэтай пасадзе да цяперашняга часу.

Створаная арганізацыя заўжды стаяла на пазыцыі захаваньня беларускай культуры як у Літувіскай Рэспубліцы, так і ва ўсім сьвеце. Можна без перабольшваньня сказаць, што менавіта дзякуючы Таварыству ў Літуве ведаюць больш пра беларусаў. Таварыства за свае 25 гадоў не толькі засьведчыла пра беларускую прысутнасьць у Вільні і Літуве, але і замацавала ў ёй беларускія сляды. Дзякуючы намаганьням Таварыства ў Вільні працуе Беларуская гімназія, у эдукалагічным універсітэце ёсць беларускі цэнтр. Можна сказаць, што дзякуючы стараньням арганізацыі, у Літуве можна набыць сярэднюю і вышэйшую адукацыю на беларускай мове. Гэта адна з найбольшых заслугаў Таварыства.

Дзякуючы працы ТБК у Вільні ўсталяваны помнікі на магілах беларускіх дзеячаў і мэмарыяльныя дошкі Францішку Скарыне, Кастусю Каліноўскаму, Браніславу Тарашкевічу, Рыгору Шырме, Янку Купалу, Вацлаву Ластоўскаму, Пятру Сергіевічу, Натальлі Арсеньневай, Максіму Гарэцкаму, Адаму Станкевічу. На Лукішскім пляцы захавана месца, на якім царскія акупанты пазбавілі жыцьця нашага героя Кастуся Каліноўскага.

Важным таксама зьяўляецца тое, што намаганьнямі ТБК у Вільні некалькі вуліц названы імёнамі вядомых беларусаў: Купалы, Коласа,...

ТБК правяло пяць канфэрэнцый беларусаў Балтыі, прыняло ўдзел ва ўсіх зьездах беларусаў сьвету. Мае вельмі цесныя кантакты зь беларускімі дыяспарамі як блізкага, так і далёкага замежжа.

Традыцыйна арганізацыя штогод адзначае самыя вялікія нацыянальныя сьвяты: Дзень абвяшчэньня БНР 25 сакавіка і Дзень Герояў (Слуцкі збройны чын). Традыцыяй ужо стала штогод 22 сакавіка ладзіць шэсьце памяці Кастуся Каліноўскага. У апошнім шэсьці прыняло ўдзел больш за 200 чалавек.

Таварыства падтрымлівае самыя цесныя кантакты з кіраўніцтвам Літувіскай Рэспублікі. Напрыклад, 26 сакавіка 2008 г. сябры ТБК былі запрошаны на сустрэчу з прэзыдэнтам краіны і атрымалі віншаваньні з нагоды 90-годзьдзя абвяшчэньня БНР. Частымі гасьцямі бываюць Вітаўтас Ландсбергіс, Андрус Кубіліюс, Эмануэліс Зінгерыс і іншыя выдатныя палітыкі Літувы.

Ня менш цесныя і цёплыя кантакты Таварыства падтрымлівае і зь беларускімі дзеячамі этнічнай Бацькаўшчыны. Відаць цяжка знайсці імя выдатнага беларускага дзеяча, які ня быў бы ў гасьцях у Таварыства.

На сьвяточную імпрэзу сабралася шмат беларусаў-віленчукоў, а таксама прыехалі госьці зь Беларусі. Свой срэбны юбілей Таварыства адзначыла ва ўрачыстай абстаноўцы. Таксама ў гэты дзень старшыня ТБК Хведар Нюнька адзначаў сваё 86-годзьдзе. Павіншаваць шаноўнага спадара Хведара прыехалі Алена Макоўская, Ніна Шыдлоўская, Барыс Пятровіч, Алесь Пашкевіч, Міхась Скобла, Уладзімір Хільмановіч, Вольга Мікалайчык і інш. У сваіх прамовах яны адзначылі важнасьць дзейнасьці Таварыства ня толькі для беларусаў Літувы, але і для самой метраполіі, падзякавалі сп. Хведару за яго актыўную жыцьцёвую пазыцыю і за жыцьцё, прысьвечанае захаваньню і распаўсюду беларускасьці ў Літуве..

Зь літувіскага боку павіншаваць прыйшоў вядомы праваабаронца Стасіс Каўшыніс, адзначыўшы важнасьць супрацоўніцтва Таварыства зь літувіскім бокам.

Сябры Таварыства падзяліліся ўспамінамі, узгадалі працу ў Таварыстве. Таксама многія выказвалі занепакоенасьць сытуацыяй у Беларусі і выказалі падтрымку Украіне, якая сёньня змагаецца за свабоду. Амаль ва ўсіх выступоўцаў гучаў спадзеў на тое, што і Беларусь у хуткім часе здабудзе незалежнасьць.

Галоўная значнасьць працы Таварыства – захаваньне беларускасьці. І гэта важна перадусім для самой Беларусі, якая ў чарговы раз апынулася пад маскоўскай зьневажальнай акупацыяй. Але тое, што беларусы перажылі 200 гадоў вынішчэньня, прыніжэньня, сведчыць, што знішчыць нас немагчыма. Нараджаюцца ўсё новыя і новыя пакаленьні беларусаў, якія ведаюць хто яны, адкуль, якія іх карані і мова. І акупанту гэты працэс не спыніць.

Час ідзе. Таварыства адзначыла свой першы важкі юбілей. У будучыні – далейшая праца па захаваньні беларускасьці і беларускіх сьлядоў, як у нашым Вечным Горадзе, так і на этнічнай Бацькаўшчыне.

*Д-р Алесь Адамковіч*

# Палітвязень Мікола Аўтуховіч выйшаў на волю




8 красавіка раніцаю Мікола Аўтуховіч пакінуў сьцены турмы, яго сустракалі каля 50 чалавек.

«Каб не было падтрымкі, мяне б згнаілі», — зазначыў ён.

Мікола правёў за кратамі 5 гадоў і 2 месяцы (быў арыштаваны 8 лютага 2009 года).

У маі 2010 за перавозку і захоўваньне пяці патронаў да паляўнічай стрэльбы Вярхоўны суд Беларусі прызнаў Аўтуховіча вінаватым на падставе часткі 3 артыкула 295 Крымінальнага кодэкса (незаконныя дзеяньні ў дачыненьні да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў) і прысудзіў да пяці гадоў і двух месяцаў пазбаўленьня волі ва ўмовах строгага рэжыму. Гэта быў ягоны другі арышт. Першы раз Міколу Аўтуховіча арыштавалі ў кастрычніку 2005 года, абвінавaціўшы ў нявыплаце падаткаў. Тады яго асудзілі на тры з паловай гады. Ён быў адным з шасьці палітвязняў, вызваленых пад уплывам ЗША і Эўразьвязу.

Праваабаронцы прызналі Аўтуховіча палітвязьнем, асуджаным за сваю актыўную грамадзкую дзейнасьць і барацьбу з карупцыяй. Ён неаднаразова адмаўляўся пісаць прашэньне аб памілаваньні на імя Лукашэнкі.

# Акцыя ў падтрымку Міколы Аўтуховіча

Амэрыканскія беларусы выступілі зь ініцыятывай аказаць дапамогу Міколу Аўтуховічу. Беларуска з Нью-Ёрку Ганна Лукашык даслала наступную абвестку пра адмысловую акцыю:

"Мікалай Аўтуховіч, 51-гадовы прадпрымальнік з Ваўкавыска, ветэран аўганскай вайны, грамадзкі актывіст, вызваліўся з турмы 8 красавіка. Мікалай Аўтуховіч правёў за кратамі больш за пяць гадоў. Апошнія гады Мікалай знаходзіўся ў гарадзенскай турме, вядомай сваімі жорсткімі ўмовамі ўтрыманьня вязьняў. Яму даводзілася дзяліць камеру з забойцамі і праваказарамі. Каб адстаяць сваю годнасьць, ён прайшоў праз галадоўкі, ускрыцьцё венаў, апошнім актам супраціву сталася ўскрыцьцё страўніка за некалькі месяцаў да вызваленьня.

Здароўе Мікалая моцна падарванае: у яго разьвіўся дыябет, ён не адчувае адной рукі; патрэбная сур'ёзная дапамога стаматоляга. Акрамя гэтага, ягоная хатняя гаспадарка і фінансы ў жахлівым стане. Як кажа сам Мікалай, «лягчэй узяць вяроўку і павесіцца», чым усё аднавіць. Але, нягледзячы ні на што, ён будзе аднаўляць сваю гаспадарку, рамантаваць і адбудоўваць уласны дом, які таксама прыйшоў у заняпад.

Калі Мікалай быў прадпрымальнікам, ён шмат дапамагаў іншым людзям – усім, хто да яго зьвяртаўся, асабліва самым безабаронным: пэнсіянерам і дзецям. Цяпер у нас ёсьць магчымасьць дапамагчы Мікалаю.

Я зьвяртаюся да беларусаў у замежжы: калі ласка, дапамажыце Мікалаю і дашліце грошы на paypal-рахунак, які адчынены для яго.

http://www.bazahq.org/paypal

Па ўсіх пытаннях і прапановах, калі ласка, зьвяртайцеся на гэты адрас электроннай пошты: donate2mikalaj.autukhovich@gmail.com"

# Юбілей Зянона Пазьняка



24 красавіка споўнілася 70 гадоў выбітнаму палітычнаму дзеячу, лідэру новага беларускага Адраджэньня, Старшыні Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі Беларусі і Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" сп. Зянону Пазьняку. 4 траўня сябры БАЗА наладзілі юбіляру ушанаваньне з гэтай нагоды у беларускім цэнтры на Атлянтык Авэню, 401 у Нью-Ёрку. Словы віншаваньня і пажаданьні на будучыню выказалі старшыня Галоўнай управы БАЗА Ганна Сурмач, старшыня Парафіяльнай рады Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага Расьціслаў Гарошка, старшыня Бруклінскага аддзелу БАЗА Тацьцяна Красоўская, ад малодшага пакаленьня выступіў Андрэй Асадчы, былі зачытаныя пісьмовыя прывітаньні ад Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы, ад беларусаў Канады, якія асабліва цёпла і ўзьнёсла віталі юбіляра, а таксама ад старшыні беларускай суполкі ў Севастопалі Валера Барташа. У выступах і пісьмовых пасланьнях узгадваліся тыя вялікія жыцьцёвыя дасягненьні юбіляра, якія сталіся вызначальнымі ня толькі ў ягоным асабістым лёсе, але, найперш, маюць безумоўнае гістарычнае значэньне для Беларусі - гэта адкрыцьцё Курапатаў, стварэньне і дзейнасьць Беларускага Народнага Фронту, здабыцьцё незалежнасьці краіны, праўда пра Чарнобыль.

Юбіляр на сёньня мае ня толькі палітычныя дасягненьні, але і значныя творчыя набыткі, пра што яскрава сьведчыла выстава выдадзеных ім кнігаў. Прысутных узрушыла кампазіцыя па кнізе "Gloria Patria", якую па мастацку выканала Галіна Пазьняк. Прагучала і знакамітая "Авэ Марыя" на словы Зянона Пазьняка, музыка Ігара Лучанка, што сталася прыгожым эмацыянальным фонам сьвята.

На завяршэньне выступіў сам юбіляр, які падзякаваў за віншаваньні і выказаў свае думкі аб





пражытым, глыбокія філязофскія развагі пра сэнс і мэты чалавечага жыцьця, пра каштоўнасьць набытага за гады жыцьцёвага вопыту і больш грунтоўнага разуменьня падзеяў і людзкіх характараў. Пройдзенае і набытае дае чалавеку цьвёрды грунт пад нагамі, каб у далейшым жыць і працаваць зь яшчэ большай адказнасьцю за дараванае яму Богам жыцьцё.

Прысутныя зычылі сп. Пазьняку добрага здароўя, доўгага жыцьцёвага шляху і новых дасягненьняў. Але, галоўнае, жадалі яму дачакацца ажыцьцяўленьня асноўнай ягонай мары і мэты жыцьця - пабачыць нашу Бацькаўшчыну вольнай і сапраўды незалежнай дзяржаваю.

*Ганна Сурмач*

# Ліст рэдактара вэб-часопіса "Сакавік" Пётра Мурзёнка

Дарагія сябры!

Прайшоў год з часу публікацыі першага нумара вэб-часопіса "САКАВІК". Часопіс выходзіць раз у тры месяцы. Зараз выйшаў пяты нумар. Рады паведаміць, што за год наш часопіс наведалі больш за 2200 чытачоў (каля 6300 праглядаў). Прыемна таксама адзначыць, што асноўную частку нашай аўдыторыі складаюць наведвальнікі з Беларусі (57%). Нас чыталі ў 38 краінах, сярод самых нядаўніх - да нас далучыліся чытачы з Бразіліі, Новай Зэландыі, Інданэзіі.

На старонках часопіса "САКАВІК" у пяці нумарах апублікаваны 23 артыкулы дзесяці аўтараў (пяць аўтараў з Беларусі, чатыры аўтары з Канады, і адзін аўтар з ЗША). Агульны аб'ём друкаваных матэрыялаў у пяці нумарах часопіса склаў 270 старонак. Часопіс прымае для публікацыі артыкулы пераважна на беларускай мове, аднак, публікацыі на іншых мовах таксама вітаюцца: з 23 апублікаваных артыкулаў, 18 - на беларускай мове, тры - на англійскай, і два - на рускай...

Кажучы пра арганізацыйныя пытаньні, адзначым, што часопіс публікуецца толькі ў электронным фармаце і разьмешчаны на вэб-сайцеwww.sakavik.net. Апроч матэрыялаў самага часопіса "САКАВІК" мы размяшчаем на вэб-сайце матэрыялы з другіх крыніц. Усе публікацыі, падрыхтаваныя менавіта часопісам, ідуць з лагатыпам часопіса "САКАВІК": На сайце Вы знойдзеце спасылкі да выданьняў і вэб-сайтаў, якія па духу блізкія нашаму часопісу, а менавіта да тых, якія адлюстроўваюць культуралягічныя і гістарычныя адметнасьці беларускага народа і спрыяюць развіцьцю беларускасьці. Паступова на сайт ставім партрэты знакамітых людзей, якія прынесьлі гонар і славу нашай краіне. У рамках праекта "РАЗАМ" часопісам запачата Бібліятэка слайдаў "БЕЛАРУСЬ НАЗАЎСЁДЫ"; выйшлі першыя тры серыі слайдаў: "Беларуская дзяржаўнасьць", Полацкае княства", і "Беларусы ў часы Вялікага Княства Літоўскага".

Абмяркоўваючы пытаньні паляпшэньня працы часопіса, хацелася б бачыць большую колькасьць каментатараў. Відавочна, што гэта залежыць ня толькі ад якасьці матэрыялаў, але і ад актыўнасьці чытачоў. Калі прасачыць каментатарскую актыўнасьць на іншых вэб-сайтах, то ў гэтым сэнсе можна адзначыць, што беларускі чытач даволі сьціплы. Тое ж самае можна сказаць і пра ўдзел чытачоў у праекце "РАЗАМ": пакуль што базу дадзеных праекта ствараюць супрацоўнікі часопіса.

Мы зьвяртаемся да журналістаў, блогераў, чытачоў дасылаць свае матэрыялы ў наш часопіс. Што тычыцца аналітычных артыкулаў, то галоўнае пажаданьне, каб не менш паловы аб'ёму займалі магчымыя рэкамендацыі і шляхі вырашэньня абмяркоўваемых праблем.

# Барысу Кіту споўнілася 104 гады!



Свой больш за стогадовы дзень народзінаў сп. Барыс Кіт - выбітны беларускі грамадзкі дзеяч, настаўнік, знаны навуковец, чалавек з вельмі цікавым лёсам адзначыў у добрым аптымістычным настроі. Сардэчна віншуем і жадаем шаноўнаму сп. Барысу і надалей ісьці годна па жыцьцёваму шляху, быць усім нам добрым прыкладам жыцьцёвай стойкасьці, мужнасьці, духовай моцы і фізычнай трываласьці.

# Юбілей Лены Глагоўскай



Сёлета 8 красавіка свой юбілей адсьвяткавала сп. Лена Глагоўская, адна з самых выбітных асобаў сярод беларускай грамады ў Польшчы. Яна нарадзілася на Беласточчыне ў 1959 годзе, якраз па тым баку мяжы з Беларусьсю, які ляжыць насупраць радзімы Ларысы Геніюш. Лёс закінуў яе ў іншы рэгіён Польшчы, яна ўжо шмат гадоў жыве ў Гданьску, але ніколі не парывала сувязяў з роднай Беласточчынай і зьяўляецца ад маладосьці там актыўным удзельнікам беларускага грамадзкага жыцьця. Ад самага пачатку ўзначальвае беларускую суполку "Хатка" у Гданьску. Мабыць нельга сёньня назваць ніводнай беларускай арганізацыі ў Польшчы, да працы якой не спрычынілася б сп. Лена. Шмат гадоў працавала прафэсаркаю ў Беластоцкім унівэрсытэце.

Сп. Глагоўская - прафэсійны гісторык, доктар габілітаваны. Высокі навуковы тытул яна зарабіла сваёй надзвычай плённай навуковай працаю ў галіне беларускай гісторыі і гісторыі беларускай прысутнасьці ў Польшчы. Яна аўтарка 3 кнігаў, была рэдактаркаю і апрацоўвала да выданьня іншых 16 кнігаў, мае больш за 160 навуковых артыкулаў, больш за 370 рэцэнзій, публіцыстычных і навукова-папулярных публікацый, напісала шмат артыкулаў для беларускіх і польскіх энцыкляпедый і даведнікаў, удзельнічала ў больш як 220 навуковых канфэрэнцыях у Польшчы і замежжы. Акрамя ўсяго гэтага навуковага і творчага набытку сп. Алена ня менш зрабіла ў дзейнасьці беларускіх грамадзкіх арганізацый у Польшчы, пастаянна падтрымлівала сувязі з беларускім адраджэнскім рухам на Бацькаўшчыне-Беларусі, была дэлегаткаю ўсіх зьездаў беларусаў сьвету ў Менску.

На жаль, сёлетні юбілей стаўся невясёлым для сп. Глагоўскай. Усе ейныя навуковыя дасягненьні не былі прынятыя пад увагу кіраўніцтвам Беластоцкага унівэрсытэта, і з верасьня гэтага году яна ўжо страчвае там сваю працу і застаецца незапатрабаваная як высокакваліфікаваны гісторык. Такі вось звычайны лёс беларускіх адраджэнцаў як раней, так і ў цяперашні час, калі ўзгадаваная новым беларускім Адраджэньнем цэлая пляяда выбітных дзеячаў застаецца без кавалка хлеба і без магчымасьці працягваць сваю дзейнасьць.

Тым не менш, мы віншуем сп. Глагоўскую з юбілеем і зычым ёй не траціць надзеі на лепшае.

***Добрага Вам здароўя, сп. Лена, і доўгага, плённага жыцьцёвага шляху на будучыню!***

# Віншаваньне

23 красавіка адзначыў свой юбілей кіраўнік беларускай суполкі "Зорка Венера" ў г. Ізяслаў ва Украіне сп. Пятрусь Капчык. Ён працуе настаўнікам у школе, і ягоныя вучні шмат ведаюць пра Беларусь. Сп. Капчык папулярызуе сярод украінцаў беларускую культуру, актыўна працуе на беларускай ніве, піша артыкулы ў друк, бярэ ўдзел у дзейнасьці Згуртаваньня беларусаў сьвету "Бацькаўшчына" як сябра Вялікай рады і дэлегат зьездаў беларусаў сьвету.

Сардэчна віншуем юбіляра, дзякуем яму за дасыланыя ў нашу газэту артыкулы і жадаем сп. Капчыку шмат гадоў плённай дзейнасьці дзеля захаваньня беларускай прысутнасьці ў сьвеце.

З нагоды юбілею мы атрымалі ліст з просьбаю павіншаваць сп. Капчыка ад імя ягоных украінскіх сяброў:

"Да вас зь вялікаю просьбаю зьвяртаецца група сяброў кіраўніка суполкі беларускай культуры "Зорка Венера" Пятруся Капчыка, якому спаўняецца 70 гадоў. Калі ласка, зьмясьціце ў нумары газеты нашае віншаваньне!

*З павагай, Міхась Слабоцкі*

***Вітаємо!!!***
***З днём народження вітаємо сердечно нашого ювіляра Петруся Капчика!!!***

***Бажаємо сонця, весняного цвіту,***
***Хай ранки твої будуть сонцем зігріті,***
***Нехай тобі, друже, у будні і свята***
***Лиш радісні вісті приходять до хати.***

***Хай щастя рікою в житті твоїм ллється***
***Хай хліб і до хліба у домі ведеться,***
***Хай серце не знає печалі і болю,***
***Бажаєм довіку щасливої долі!***



*Пятрусь Капчык (у цэнтры) сярод сваіх сяброў*

# Гульня інтэлектуалаў

6 красавіка ў грамадзкай зале Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага (New York, Brooklyn) упершыню прайшла гульня пад назвай "Што? Дзе? Калі?". Яе арганізатарамі і ўдзельнікамі былі маладыя людзі, якія прызвычаіліся да падобных інтэлектуальных спаборніцтваў у Беларусі.

Як гэта адбывалася? Вядучы задаваў пытаньне (яно дублявалася на экране), і пачынаўся адлік 40 сэкундаў, падчас якіх удзельнікі камандаў мусілі выпрацаваць свой адказ. Запісаны на аркушы паперы, ён перадаваўся падліковай камісіі. А вядучы агучваў новае пытаньне. Вось прыклад. "Лічыцца, што самы кароткі тэстамэнт напісаў амэрыканскі мільянэр Стыў Бухайлер, які меў семярых сыноў, сорак дзевяць унукаў і трыста пятнаццаць праўнукаў. Ці можаце вы агучыць гэты тэстамэнт, які складаецца ўсяго з двух словаў?"

Удзельнікаў інтэлектуальнай гульні чакалі больш за трыццаць падобных пытаньняў. Яны былі вельмі шырокага спэктру, і найчасьцей дзеля правільнага адказу не патрабавалася мецъ "у галаве" энцыкляпэдыю. У гэтай гульні шанцуецца ўменьне зрабіць з дапамогай "мазгавога штурму" патрэбныя лягічныя высновы ці інтуітыўна знайсці правільны адказ. Менавіта момант імправізацыі найбольш прыцягальны для ўдзельнікаў гульні "Што? Дзе? Калі?".

Прыемныя эмоцыі атрымалі таксама гледачы. Спадзяемся, што ў наступны раз яны папоўняць шэрагі ўдзельнікаў. Па выніках гульні перамаглі дзьве каманды – "Сарматы" й "Гарматы", ім уручылі спэцыяльна падрыхтаваныя дыплёмы.

Дарэчы, правільны адказ на працытаванае пытаньне: «Нікому нічога».

*Раман Карп*



*На здымку: прадстаўнікі камандаў – пераможцаў у гульні "Што? Дзе? Калі?".*

# Сьв. + Пам. ЛЮДМІЛА РАГУЛЯ (ГУТАР) 12.II.1925 – 20.II.2014



Сёлета 20 лютага ў Канадзе памерла Людміла Рагуля, жонка нябожчыка др. Барыса Рагулі.

Людміла была родам з Наваградчыны. З раньняга веку брала актыўны ўдзел у грамадзка- культурным жыцьці, належала да Згуртаваньня Беларускай Моладзі. Выехала зь Беларусі ў 1944 годзе. Першымі паваеннымі гадамі была студэнткай, спачатку ў Заходняй Нямеччыне, а пасьля ў Бэльгіі ў горадзе Лювэне, на фармацэўтычным факультэце.

Са сваім будучым мужам Барысам Людміла была знаёмая з юнацтва, пазьней яны пабраліся шлюбам, і на чужыне, у Бэльгіі, у 1951 годзе ў іх нарадзілася дачка, а праз год і сын, якіх бацькі назвалі гістарычнымі імёнамі Рагнеда й Вітаўт. У 1955 годзе Рагулі эміграваў у Канаду й пасяліліся ў горадзе Лёндане ў правінцыі Антарыё. Іхныя студэнцкія гады апісаныя ў кнізе Барыса Рагулі "Беларускае студэнцтва на чужыне", другое дапоўненае выданьне якое (рэд. Лявон Юрэвіч) выйшла ў выд. "Бібліятэка Бацькаўшчыны" (Мінск, "Беларускі кнігазбор", 2006).

*На здымку: Сям'я Б. і Л. Рагуляў у Бэльгіі*

# Выйшлі ўспаміны беларуса Васіля Стомы




У Менску выдавецтва «Лімарыус» у серыі «Беларуская мемуарная бібліятэка» выдала ўспаміны «Маё мястэчка» Васіля Стомы (1911—1992).

Аўтар нарадзіўся ў в. Лужкі былога Дзісьенскага павету Віцебскай вобласьці. Пад час Другой усясьветнай вайны працаваў у беларускай адміністрацыі, Улетку 1944 г. разам з маці і сястрой выехаў на эміграцыю. Праз гады побыту ў Нямеччыне сям'я выехала ў ЗША.

Васіль Стома быў адным з заснавальнікаў аддзела Беларуска-Амэрыканскага задзіночання ў штаце Нью-Джэрзі, быў сябрам Рады БНР, парафіянінам царквы Іконы Жыровіцкае Божае Маці ў Нью-Брансвіку, выкладчыкам у беларускай суботняй школцы. Зарабляў на жыцьцё, працуючы ў шавецкай майстэрні.

У вольны ад працы час Васіль Стома пісаў пра абрады й звычаі Дзісеншчыны, складаў слоўнічак тамтэйшага дыялекту, а таксама пісаў успаміны.

Асноўны зьмест апошніх складае аповед пра дзяцінства і юнацтва ў Лужках, а дакладней, пра само мястэчка, вуліцы, будынкі, насельніцтва пад «польскім часам».

Апісаныя Стомам Лужкі — мястэчка, дзе нарадзіўся стваральнік іўрыту Эліэзэр Бэн Егуда. Сярод згаданых ва ўспамінах ёсьць а. Язэп Гэрмановіч, вядомы доктар Усевалад Шыран, сьвятар Іван Кушнер, жонка Станіслава Булак-Балаховіча.

Упершыню «Маё мястэчка» публікавалася на старонках эміграцыйнага часопіса «Беларускі сьвет», што выдаваўся ў Дэтройце ў 1980-х гг. Сёлетняе выданне больш поўнае, дадаўся таксама тэкст пра абрады й звычаі Дзісеншчыны.

# Новы посьпех у адраджэньні беларускага рэлігійнага жыцьця ў Вільні

У пачатку XX стагоддзя Вільня была цэнтрам беларускага адраджэння. Разам з грамадзкай, культурнай дзейнасцю развіваўся і нацыянальны каталіцкі рух: прамаўляліся першыя казанні на роднай мове ў найноўшай гісторыі, на ёй выдаваліся каталіцкія малітоўнікі, газеты, часопісы. Таксама важную ролю ў станаўленні нацыянальнай Царквы адыгралі Віленская каталіцкая семінарыя, са сцен якой выйшлі практычна ўсе будучыя дзеячы беларускага каталіцтва, і беларускі кляштар айцоў марыянаў, узгадаваўшы цэлае пакаленне шчырых і самаадданых святароў-манахаў, якія ў пазнейшыя часы не давалі згаснуць беларускаму агеньчыку ў эміграцыйных асяродках, раскіданых па ўсім свеце.

Тады, у пачатку XX стагоддзя і міжваеннай Вільні менавіта беларускі каталіцкі рух быў тут адным з цэнтраў нацыянальнага жыцця беларусаў і дзякуючы самаахвярнай працы святароў-адраджэнцаў не згасала самасвядомасць у душы як простага беларуса, так і інтэлігента і запаленая імі паходня беларускасці не давала забывацца пра карані.

Працэсам увядзення роднай мовы ў рэлігійнае жыццё займаліся беларускія святары-адраджэнцы: Адам Станкевіч, Вінцэнт Гадлеўскі, Казімір Сваяк, Язэп Германовіч, Уладыслаў Талочка, Адам Лісоўскі, Ільдэфонс Бобіч, Віктар Шутовіч, Казімір Кулак, Уладыслаў Чарняўскі... Немалазначны ўклад унесла і каталіцкая іерархія: біскупы Эдвард Ропп, Юры Матулевіч. Менавіта пад іх абаронай і прыхільным стаўленнем да беларусаў і іх мовы зараджаліся ў Каталіцкай Царкве на гэтай зямлі працэсы беларусізацыі.

Аднак беларускі каталіцкі рух у Вільні перапыніў сваё існаванне у 1949 годзе ў сувязі з арыштам і смяротнай ссылкай беларускага душпастыра Віленшчыны кс. Адама Станкевіча.

Дзякуючы няспыннай малітве шматлікіх беларусаў з усяго Свету ды дабрыні віленскага Мітрапаліта, пачалося адраджэнне беларускага рэлігійнага жыцця ў сучаснай Вільні!

У касцёле святога Барталамея на Зарэччы (Užupis) вядуцца рэгулярныя беларускамоўныя набажэнствы:

будня дні - святая Імша а 8.00.
нядзеля - святая Імша а 12.00.

*Беларусы Вільні.*

# У памяць трагедыі ў в. Дражна

У 1943 г. савецкія партызаны, змагаючыся з паліцэйскім гарнізонам у в. Дражна Старадарожскага раёну, забілі 25 бязьвінных мірных жыхароў. "Праз дарогу на вясковых могілках пахаваны ўсе ахвяры той жудаснай трагедыі, якую ўчынілі над старымі жанчынамі, мужчынамі і дзецьмі гора-партызаны.

Некалькі гадоў таму назад актывісты грамадскаіх рухаў зь Менску і вернікі з Афрасінінскай суполкі БАПЦ сумесна зь мясцовымі жыхарамі Дражна ўсталявалі былі вялізны драўляны афрасінінскі крыж з памятнай таблічаю-сьпісам ўсіх пастраляных дражненцаў. Але асьвячаны айцом Леванідам Акаловічам крыж праз пару дзён сельсавецка-раённая ўлада спілавала і адвезла ў расейскую царкву ў суседнюю вёску Залужжа, дзе ён дагнівае ў хляве. Некалькі ўдзельнікаў той акцыі зазналі рэпрэсіяў ад раённага начальства. Тым ня менш вернікі-ліцьвіны і патрыёты-дэмакраты зь Менску Літоўскага амаль штогод прыяжджаюць на Дражненскія могілкі, каб ушанаваць памяць загінулых ахвяраў маскоўска-партызанскага тэрору. Так было і 14 красавіка 2014 г. На ўсе магілы бязьвінных пакутнікаў былі ўскладзены кветкі, вянкі і запалены зьнічы. Пратаярэй Леванід Акаловіч справіў тут за ўсіх супачылых ліцію, успомніўшы іх паймення, асвяціў сьвятою вадою магілы і помнікі на іх. Ёсьць намер паставіць неўзабаве у памяць трагедыі 1943 г. вялікі каменьвалун з мемарыяльнаю дошкаю на ўсе 25 імёнаў загiблых.

*А. Леванід Акаловіч*

# Выйшаў чаргові нумар "Запісаў БІНІМ"

Чарговы выпуск альманаха "Запісы БІНіМ", які выдае Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва зь Нью-Ёрка, прысьвечаны калекцыям беларускіх артэфактаў, якія захоўваюцца за мяжой. Дарэчы, частку калекцый нядаўна перадалі ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей літаратуры і мастацтва, які знаходзіцца ў Менску. Матэрыялы, якія туды трапілі, таксама апісаныя ў новым нумары "Запісаў", – кажа галоўная рэдактарка альманаха Наталля Гардзіенка: "Асноўная тэма нумару – гэта ўласна беларускія калекцыі на Захадзе. Прычым, апісаныя яны не толькі ў аналітычным пляне. У дадатку да гэтага нумара на дыску зроблена спецыяльная мультымедыйная праграма, дзякуючы якой можна пабачыць выявы ўсіх гэтых скарбаў, усіх гэтых артэфактаў беларускай дзейнасьці на Захадзе".

У гэтым выпуску "Запісаў" сярод шматлікіх іншых матэрыялаў друкуецца дзённік Кастуся Езавітава, які ён вёў у апошнія месяцы ў Нямеччыне да арышту СМЕРШаўцамі.

# Каляндар памятных датаў на травень 2013 году

**3 траўня -** Сусьветны дзень свабоды друку

**5 траўня -** 195 гадоў таму, у 1819 годзе, нарадзіўся Станіслаў Манюшка, кампазытар, клясык польскай і беларускай оперы

**6 траўня -** 110 гадоў таму, у 1904 годзе, нарадзіўся Паўлюк Трус, паэт

**6 траўня -** 80 гадоў таму, у 1934 годзе, у Празе памёр Мікола Вяршынін, грамадзка-палітычны дзеяч, консул БНР у Чэхаславакіі

**7 траўня -** Сьвята абраза Маці Божай Жыровіцкай

**8 траўня -** Сусьветны дзень Чырвонага Крыжа і Чырвонага Паўмесяца

**8 траўня -** 15 гадоў таму, у 1999 годзе, у Сыднэі памёр Сымон Шаўцоў, дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі, пісьменьнік

**12 траўня -** 60 гадоў таму, у 1954 годзе, Беларусь была прынята ў ЮНЭСКА

**13 траўня -** 135 гадоў таму, у 1879 годзе, нарадзіўся Янка Серада, дзеяч нацыянальнага руху, старшыня прэзыдыюму Рады БНР

**14 траўня -** 75 гадоў таму, у 1939 годзе, у савецкім лягеры ў Комі памёр Павал Жаўрыд, адзін з кіраўнікоў Слуцкага паўстаньня

**15 траўня -** 105 гадоў таму, у 1909 годзе, нарадзіўся Язэп Найдзюк, дзеяч заходнебеларускага руху, гісторык, аўтар кнігі "Беларусь учора і сёньня"

**16 траўня -** 15 гадоў таму, у 1999 годзе, у Таронта памёр Мікола Ганько, дзеяч эміграцыі ў Аўстрыі і Канадзе

**18 траўня -** Міжнародны дзень музэяў

**22 траўня -** 10 гадоў таму, у 2004 годзе, у Вільні устаноўлена памятная дошка Натальлі Арсеньневай

**24 траўня -** Дзень славянскай пісьменнасьці

**26 траўня -** 105 гадоў таму, у 1909 годзе, нарадзіўся Часлаў Ханяўка, дзеяч эміграцыі ў ЗША

**31 траўня -** 35 гадоў таму, у 1979 годзе, у ЗША памёр Францішак Чарняўскі, каталіцкі сьвятар, дзеяч эміграцыі у Францыі, Бэльгіі і ЗША

## Шаноўнае спадарства!

**Каб пазнаёміць эмігрантаў "новай хвалі" з набыткамі культурнага й грамадзкага жыцьця іх папярэднікаў, Арґкамітэт сёлетняй Сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі мае намер стварыць слайд-фільм з фатаграфій мінулых гадоў.**

**Просім усіх, хто мае здымкі з Сустрэчаў 1952 – 2012 гадоў, пазычыць іх у часовае карыстаньне.**
**(Пасьля сканаваньня яны будуць вернутыя ўладальнікам непашкоджаныя ды зь вялікай удзячнасьцю.)**

**Дасылаць фатаграфіі можна на адрас рэдакцыі або спадарыні Валянціне Трыгубовіч (172 Mill Spring Rd., Manhasset N.Y. 11030)**

## Лёзунг «Жыве Беларусь!» упершыню прагучаў амаль 100 гадоў таму

Упершыню лёзунг «Жыве Беларусь!» гучаў на самастойным беларускім мітынгу, які Беларускі нацыянальны камітэт правёў 10 сакавіка 1917 года на Залатой Горцы ў Менску. Такую версію выказаў гісторык, журналіст і грамадзкі дзеяч, сын вядомага антысавецкага падпольшчыка Зміцер Кісель.

## Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА) і Згуртаваньне беларусаў Канады (ЗБК) паведамляюць,

што 31- я Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі адбудзецца 30-31 жніўня 2014 у беларускім рэлігійна-грамадзкім цэнтры на 401 Атлянтык Авэню ў Брукліне

**Тэма Сустрэчы:**
**"Свабода Палітвязьням, свабода Слова, свабода ад Страху"**

**У багатай праграме:**

- Панэльная дыскусія на тэму Сустрэчы
- Канцэрт з удзелам гурту "Яваровы дюдзі", слаўнага баяніста Аляксандра Севасьцьяна і інш. выканаўцаў з Канады і Амэрыкі, сяброўскія спатканьні, смачная ежа, гістарычныя фільмы, танцы, гульні...
- Мастацкія выставы, сярод якіх фота пра Беларусь Джона Кунстадэра

**Запрашаюцца ўсе зацікаўленыя!**

## На выданьне "Беларуса" ахвяравалі:

Іосіф Адамовіч $ 50
Марыя Азарка (у памяць мужа Янкі Азаркі) $ 100
Сільвестр Будкевіч $ 60
Марыя Данілюк $ 50
Сымон Дудар $ 60
Іван Кацярыныч $ 50
Нікалас Касьцюк $ 50
Лявон Кавалёў $ 100
Алесь Кот $ 50
Мікалай Махнач $ 50
Нікалас Сьняжко $ 100
Вячка Станкевіч $ 50
Жанна Чарняўская $ 50
Міхась Шведзюк $ 50
Марыя Мароз (Аўстралія) $ 50

Прыносім свае выбачэньні сп-ні Марыі Мароз з Аўстраліі, у студзеньскім нумары газэты па недагляду яе імя не было надрукавана ў сьпісе ахвярадаўцаў

**Вялікі дзякуй усім ахвярадаўцам!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае:
***Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне***

**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published by
***Belarusan American Ass'n, Inc.***

**Склад Рэдакцыі:**
Ганна Сурмач – адказны рэдактар (surmacova@gmail.com)
Алена Высоцкая – адказная за кампутарную вёрстку
Таня Красоўская – скарбнік, арганізатар падпіскі (premiere718@yahoo.com)
Галіна Падлеская – рэдактарка дзіцячай старонкі galinapodles@hotmail.com
Валеры Дворнік - адказны за друк
Натальля Старавойтава - адказная за рассылку газэты

Артыкулы падпісаныя прозьвішчамі ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не пагаджаецца.

**Адрасы Рэдакцыі:**
Паштовы адрас:
***Hazeta Bielarus***
***166-34 Gothic Drive***
***Jamaica, NY 11432***
***USA***

**Грашовыя чэкі выпісываць на імя :** ***BIELARUS newspaper*** дасылаць скарбніку на паштовы адрас рэдакцыі.

**Электронны адрас (email):**
**bielarus@bazahq.org**
*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*